Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднаўлена ў 1997 годзе.

МАСАВА-ПАЛІТЫЧНЫ ШТОТЫДНЁВІК

# Газета Слонімская

№2 (292) 9 — 15 студзеня 2003г. Наклад 11.500 экз. Кошт 350 руб.

«ГАЗЕТУ СЛОНІМСКУЮ» ЧЫТАЮЦЬ

Слонім, Зэльва, Дзятлава, Масты, Ваўкавыск, Шчучын, Ліда, Гродна, Баранавічы, іншыя гарады Беларусі, а таксама на HTTP://gs.promedia.by

## АНОНС



ВЁСКА НАПЯРЭДАДНІ КАЛЯДАЎ

# І ПРАЦЫ ХАПАЕ, І ПРАБЛЕМ

Фота Віталя ГІЛЯ

**У мінулую суботу, за два дні да праваслаўных Калядаў, карэспандэнты "ГС" выравшылі даведацца, з якім настроем вяскоўцы сустрэлі Новы год і як рыхтуюцца да святкавання Калядаў.**

**СУСТРЭЧА З ПАЛЯЎНІЧЫМ**

Непадалёку ад Сянькоўшчыны, спыніўшы каля дарогі свой жоўты "Запарожац", сярод кустоў са стрэльбаю за плячыма хадзіў паляўнічы. Мы даведаліся, што мужчына, якому споўнілася 67 гадоў, паляваннем займаецца ўжо сорак пяць гадоў. Сёлета ён упаляваў некалькі зайцоў і адну лісіцу.

"Я вельмі люблю прыроду, часам трапляліся пад стрэльбу алені, казулі і дзікі, але я ніколі па іх не страляў, бо шкада гэтых прыгожых лясных жывёл", — прызнаўся паляўнічы.

Падчас нашай размовы раптоўна з-за прыдарожных кустоў выскачыў заяц і паімчаў па заснежаным полі. Наўздагон за ім пабег сабака паляўнічага. Але дзе там зловіш беляка... "Загаварыўся я тут з вамі, хлопцы, і такога зайца празяваў", — сказаў чалавек са стрэльбаю і, развітаўшыся, пайшоў па заячых слядах.

(Працяг на 2 стар.)

ВЁСКА НАПЯРЭДАДНІ КАЛЯДАЎ

# І ПРАЦЫ ХАПАЕ, І ПРАБЛЕМ




*Эх, вы сані, мае сані!..*

**(Працяг. Пачатак на 1 стар.)**

### НА ФЕРМЕ СПАКАЙНЕЙ

Пад'язджаючы да вёскі Мілаванне здалёк, мы заўважылі каля мясцовай фермы дзвюх жанчын, якія грузілі на воз салому. Адна з іх, убачыўшы фотаапарат, крыкнула:

— Ой, глядзі, Валя, нас хочуць сфатаграфаваць.

Валя прамаўчала, а яе напарніца кінула вілы і пабегла хаваца за бліжэйшую пабудову, баючыся, што патрапіць у аб'ектыў нашага фотакарэспандэнта.

Са слоў Валянціны Утлік мы даведаліся, што яна на ферме працуе другі год, а раней працавала прадаўцом у вясковым магазіне.

— Дык навошта вы памянялі магазін на ферму? — запыталіся ў вясковай кабеты.

— Ай, тут спакайней, чым у магазіне, таму я адтуль звольнілася, — адказала жанчына.

Што тут скажаш: кожнаму сваё.

### ДЫЯЛОГ У "ЧЫРВОНЫМ КУТКУ"

На дзвярах аднаго з пакойчыкаў фермы ў Мілаванні, яшчэ з савецкіх часоў, зберaглася маленькая шыльдачка з надпісам "Красный уголок". Адтуль даносіліся жаночыя і мужчынскія галасы. Мы зайшлі ў пакой і далучыліся да іх гутаркі. Аказалася, што вяскоўцы з Шышкоў і Бярдовічаў чакалі млынара, які яшчэ працуе на ферме ў Ягнешычах. Найбольш прэтэнзій у наш адрас выказала загадчыца фермы: чаму мы патрапілі на ферму без заатэхніка і чаму прыехалі пагрэцца без бутэлькі?

"Бутэльку перахапіў у нас паляўнічы са стрэльбаю яшчэ каля Сянькоўшчыны," — пажартавалі мы. Загадчыца ўсміхнулася і сказала, што нас усіх ведае. Праўда, мы яе першы раз бачылі, але нам было прыемна, што і ў Мілаванні пра нас ведаюць.

Вяскоўцы ў "Чырвоным кутку" гаварылі пра тое, што вёскі адміраюць. Калі, напрыклад, гадоў пяць-дзесяць назад у Бярдовічах сельскія жыхары трымалі 64 каровы, то сёлета іх засталося толькі 19. А што будзе праз пяць гадоў? Відаць, ужо і калгасаў не будзе. "Тады няхай нам вяртаюць прыватную зямлю нашых бацькоў



*Воз, вілы ды працавітыя рукі жанчыны*



*Збожжа змалоў — будзь здароў*

і дзядоў, што забралі саветы, вяртаюць коней, вазы, збрую, альбо далярамі аддаюць", — разважалі вясковыя мужыкі. Аўтобусы ў Мілаванне і Бярдовічы не ходзяць, як было раней. У горад людзі дабіраюцца па-рознаму: хто ідзе на аўтобусныя прыпынкі ў Сянькоўшчыну ці ў Шышкі, а хто аўтастопам. А яшчэ вясковыя жыхары нам распавядалі пра загадчыцу Бярдовіцкага сельскага клуба Галіну Захарчук.

"Такога здольнага арганізатара і культсветработніка ў Беларусі, мусіць, няма, — казалі яны. — На кожнае свята Галіна Уладзіміраўна арганізоўвае розныя мерапрыемствы. Нам, вяскоўцам, яна сумаваць не дае".

### ЯК ПРАВІЛЬНА ВЫМАЎЛЯЕЦЦА ВЁСКА МІЛАВАННЕ?

Такое пытанне нам прыйшлося задаць жыхарам гэтай вёскі. Куды трэба ставіць націск пры вымаўленні назвы іх вёскі: на літару "і" ці на трэці склад у гэтым слове? Усе вяскоўцы адказалі, што правільна іх вёска называецца Мілаванне з націскам на "і". А адзін дзядзька сказаў, што і суседнюю іх вёску Сынковічы чамусьці называюць і пішуць у газетах Сынкавічы. "Ніколі Сынковічы не былі Сынкавічамі, хто ж гэта назву сказіў?" — незадаволена пытаўся вясковец.

### БЕЗ МЛЫНА ЦЯЖКА

Пасля 12 гадзін прыехаў млынар і пачаў малоць людское збожжа на муку. У калгасе "1 Мая" засталося два млыны — у Мілаванні і ў Кастровічах. Млынар з Мілавання Уладзімір Філіповіч сказаў, што вяскоўцы даволі часта карыстаюцца паслугамі млына. Каб змалоць 100 кг, неабходна заплаціць каля 800 рублёў. Млын у Мілаванні працуе некалькі дзён на тыдзень, і без яго вяскоўцам не абысціся.



*Гутарка ў "Чырвоным кутку" фермы*

### КЛУБ У БЯРДОВІЧАХ

Падчас сустрэчы з сельскімі культасветработнікамі Галінай Захарчук і Юрасём Генюшам у Бярдовіцкім клубе можна было гутарыць цэлы дзень. Заадно хвалявалася Галіна Уладзіміраўна, што мы прыехалі так нечакана і яна не магла нас сустрэць з "хлебам-соллю". У той дзень, ён быў працоўны, Галіна і Юрась чакалі артыстаў з пасёлка Кастрычніцкі Зэльвенскага раёна і з Байкоў. Пакуль у Бярдовічы ехалі артысты, з вуснаў Галіны Захарчук і Юрася Генюша мы пачулі шмат цікавага пра адпачынак людзей на вёсцы і пра дзейнасць мясцовых работнікаў культуры:

— Працы ў нас хапае, так як і праблем. Але жывем, праводзім розныя мерапрыемствы, падключаем пенсіянераў і школьнікаў. Не хапае фінансаў, але сяды-тады дапамае калгас, сельсавет, аддзел культуры. Сёлета хацелася б замяніць у клубе ваконныя гнілыя рамы. А на гэта патрэбны грошы. Тым не менш, мы ў Бярдовічах не сумуем. Пры нашым клубе працуюць розныя гурткі мастацкай самадзейнасці, мы часта бываем з канцэртамі ў іншых месцах нашага раёна і вобласці...

**Сяргей ЧЫГРЫН,**
**фота Віталя ГІЛЯ**

НАВІНЫ

## "КАЛЯДКІ" ПЕРАД КАЛЯДАМІ

**Падчас зімовых канікул работнікі гарадской дзіцячай бібліятэкі запрасілі на ранішнік "Чароўны свет казачнага царства" выхаванцаў Слонімскага дзіцячага дома.**

Дзеці ўбачылі тэатралізаванае прадстаўленне "Парад любімых казачных герояў", якое па матывах казак Карнея Чукоўскага, Шарля Перро і іншых аўтараў паказалі актывісты бібліятэкі. А вось вучні СШ №7, якія займаюцца ў гуртку "Беларускі нацыянальны абрад пры УПВН "Скарбніца" з дапамогай свайго кіраўніка Валянціны Лішык паказалі беларускія "Калядкі". Усе прысутныя мелі магчымасць паглядзець на калядную світу — Казу, Чорта і іншых персанажаў. Дзеці таксама ўдзельнічалі ў віктарынах, адгадайках і літаратурнай гульні.

Выхаванцы дзіцячага дома чыталі вершы, спявалі і танцавалі. А напрыканцы сустрэчы работнікі бібліятэкі частавалі сваіх маленькіх гасцей духмяным чаем і печывам.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

## 10 ЯНВАРЯ ЦЕНЫ И ТАРИФЫ ОКРУГЛЯТСЯ

**В соответствии с постановлением Министерства экономики, с 10 января 2003 года в Беларуси вводится новый порядок округления розничных цен и тарифов для всех субъектов хозяйствования.**

Как подчеркнули БелаПАН в Минэкономики, изменения, вносимые постановлением в положение о порядке формирования и применения цен и тарифов, распространяются на все товары, реализуемые в розничной торговой сети, и оказываемые услуги. Отпускные цены на товары субъекты хозяйствования определяют самостоятельно.

Новые розничные цены на товары и тарифы на услуги должны заканчиваться на "0" или на "5". Если цена (тариф) составляют до 1 тысячи рублей включительно, то точность округления составит до 5 рублей. При этом менее 2,5 рублей отбрасываются, 2,5–7,5 рублей округляются до 5 рублей, а свыше 7,5 рублей округляются до 10 рублей. Цены и тарифы свыше 1 тысячи рублей округляются с точностью до 10 рублей. При этом до 5 рублей — отбрасываются; 5 рублей и выше — округляются до 10 рублей. К примеру, 271,7 рубля округляются до 270 рублей, 989,6 рубля — до 990 рублей, 15674,0 рубля — до 15670 рублей и 38765,0 — до 38770 рублей.

**Ирина САЗАНОВИЧ**

## ПРЭЗЕНТАЦЫЯ "ПАРЭЧЧА"

**Нядаўна наш зямляк Аляксандр Талерчык выдаў кнігу пра гісторыю сваёй роднай вёскі Парэчча, што на Слонімшчыне.**

Прэзентацыя гэтай кнігі адбудзецца ў пятніцу, 10 студзеня, у 17 гадзін у Слонімскай цэнтральнай бібліятэцы імя Якуба Коласа.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

НАВІНЫ

## МІКАЛАЙ ПАХОЛАК ПРАЦУЕ Ў ГРОДНЕ

**Былы старшыня Слонімскага райвыканкама Мікалай Пахолак атрымаў пасаду ў Гродзенскім аблвыканкаме.**

Цяпер ён працуе першым намеснікам старшыні абласнога Упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання.

## НОВАЯ КНІГА ІВАНА ЧЫГРЫНА

**У Мінску выйшаў з друку новы зборнік вершаў нашага земляка Івана Чыгрына "Пялёсткі полымя".**

Гэта ўжо шостае паэтычнае выданне аўтара з Чамяроў. Вершы з новага зборніка з'яўляюцца своеасаблівым працягам ранейшых паэтычных радкоў. У іх — роздум аб нашым нялёгкім жыцці, аб Радзіме, аб тых праблемах, якія хвалююць паэта і ўсіх нас:

*Радзіму называюць раем.*
*А тут хоць трэсні,—*
*І жывем, і паміраем*
*Пад чужыя песні.*

Ёсць у кнізе "Пялёсткі полымя" вершы, прысвечаныя гісторыі нашай Бацькаўшчыны і яе мове. Гэтая тэма скразною лініяй праходзіць праз усю кнігу:

*І што яны з намі зрабілі?*
*Бацькоў мы сваіх згубілі.*
*Дзядоў мы сваіх забылі.*
*Зямлю сваю загубілі.*

**Сяргей ЧЫГРЫН**

СТАТЫСТЫКА

## КОЛЬКАСЦЬ ЗЛАЧЫНСТВАЎ ПАВЯЛІЧЫЛАСЯ

**За 11 месяцаў 2002 года па лініі ўсіх службаў Слонімскага РАУС зарэгістравана павелічэнне колькасці злачынстваў на 17,1% у параўнанні з адпаведным перыядам 2001 года. Усяго за гэты перыяд было зарэгістравана 562 злачынствы.**

Іх колькасць па лініі крымінальнага вышуку ўзрасла на 19,2% і склала 372 злачынствы, з якіх 171 — цяжкія і асабліва цяжкія. Раскрыта было 80,6% ад агульнай колькасці злачынстваў. Гэты паказчык на 9,3 % вышэйшы за сярэдні па вобласці.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

ЗДАРЭННЕ

## ЗА ЗАЎВАГУ — УДАР НАЖОМ

**У адзін са снежанскіх вечароў мінулага года раней судзімы слонімец Б. нанёс нажавое раненне адміністратару раённага дома культуры.**

Работнік РДК атрымаў удар нажом пасля таго, як зрабіў маладому чалавеку заўвагу за спробу прайсці на дыскатэку ў верхнім адзенні.

Пацярпелы з цяжкім раненнем быў дастаўлены ў бальніцу. Хулігана, які ў мінулым годзе толькі вызваліўся з месцаў пазбаўлення волі, міліцыя арыштавала на месцы злачынства. Супраць яго ўзбуджана крымінальная справа.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

СОЦИУМ

# ПЕНСИОНЕРОВ СТАНОВИТСЯ БОЛЬШЕ, А ДЕНЕГ — МЕНЬШЕ

**В 2002 году на выплату пенсий ежемесячно в Беларуси расходовалось более 200 млрд. рублей. По сообщению Министерства труда и социальной защиты, в декабре сумма пенсионных выплат составила 230,1 млрд. рублей.**



Фота Віталя ГІЛЯ

*В очереди за пенсией*

В прошлом году отмечен и рост численности "новых" пенсионеров (работников, уходящих на пенсию до достижения пенсионного возраста) при снижении количества занятых в экономике. Дальнейший рост численности "новых" пенсионеров продолжится и в новом году.

Кроме того, с 2001 года в Беларуси отмечено постоянное снижение денежных запасов Фонда социальной защиты населения, из которого выплачиваются пенсии. Так, в прошедшем году обеспеченность фонда средствами к началу каждого месяца составляла в среднем 22,8 процента, в то время как в 2000 — 97,1 процента. Отметим, что средства на выплату пенсий формируются за счет обязательных страховых взносов нанимателей (в основном, 35 процентов фонда оплаты труда) и работников (1 процент индивидуальной заработной платы).

По данным Министерства труда и социальной защиты, продолжается также рост задолженности по уплате страховых взносов, связанной с экономическим положением субъектов хозяйствования — плательщиков страховых взносов. Долг субъектов хозяйствования Беларуси перед Фондом социальной защиты на 3 января 2003 года составлял 170 миллиардов рублей страховых взносов.

В последние годы также наблюдается рост уровня пенсионного обеспечения по отношению к доходам работников. Коэффициент возмещения заработка пенсией увеличился с начала этого года в 1,2 раза — с 35,2 до 41,5 процента. При этом тариф взносов на социальное страхование остается неизменным в течение последних 10 лет, в то время как за тот же период численность пенсионеров увеличилась на 10,9 процента; численность плательщиков взносов сократилась на 13,9 процента; число получателей пенсий увеличилось на 28 процентов. То есть, как отмечают специалисты, потребности пенсионной системы резко возросли при значительном сужении ее финансовой базы.

В настоящее время в органах по труду и социальной защите получает пенсии 2,5 миллиона человек, из которых 2,4 млн. человек являются получателями трудовых пенсий.

Что касается Слонимщины, то в настоящее время, по данным местного Фонда социальной защиты населения, на территории Слонимского района проживают 18922 пенсионера. Для выплаты им пенсий и пособий ежемесячно требуется 1700 млн. рублей, а перечисления в Фонд социальной защиты составляют порядка 1100 — 1200 млн. рублей. Средства Фонда формируются за счёт страховых взносов 1600 предприятий и организаций и, примерно, 32 тысяч работников. Однако многие субъекты хозяйствования находятся сегодня в плачевном состоянии и задолжали Фонду более 1200 млн. рублей — месячное поступление страховых взносов. Лидируют здесь сельхозпредприятия. Например, колхоз «Октябрь» за 11 месяцев прошлого года перечислил на счёт Фонда всего 54382 рубля, а необходимо свыше 100 млн. рублей страховых взносов. Колхоз «Вперёд» задолжал 105 млн. рублей, агрофирма «Щара» — 60 млн., сельхозпредприятие «Сосновка» — 43 млн. рублей. Из предприятий города самую большую задолженность по страховых взносах имеет камвольно-прядильная фабрика — 100 млн. рублей.

Тем временем в правительстве республики прорабатывается пакет документов по реформированию пенсионной системы. В качестве одного из нововведений, возможно, станет продление сроков выхода на пенсию для мужчин — с 60 до 62,5 года, у женщин — с 55 до 60 лет. Таким образом, рост числа пенсионеров в стране на некоторое время может быть приостановлен.

**Анна МУРАВСКАЯ, Микола КОНОНОВИЧ**

НАВІНЫ КНІГАРНІ

# "ЕСТЬ У ГОРОДА СЛАВА ГОРДАЯ"

**Кніга пад такой назвай нядаўна выйшла ў свет у Слонімскай друкарні. Яе аўтар і рэдактар, загадчыца Слонімскай гарадской бібліятэкі №2 Алена Лепко.**



Пад адной вокладкай яна сабрала краязнаўча-бібліяграфічныя нарысы пра выбітных землякоў Гальяша Леўчыка, Міхаіла Гарабца, Яўгенію Врублеўскую, Васіля Супруна, Міхаіла Рылко, Рудольфа Пастухова, Юрыя Крэтава і яго тэатр "Дыклон". Як сказала Алена Васільеўна, у працы над кнігай ёй дапамагалі і самі героі некаторых нарысаў.

Першы нарыс, прысвечаны Рудольфу Пастухову, быў напісаны ў 1995 годзе, калі паэт яшчэ быў жывы. А апошні, з тых што ўвайшлі ў кнігу "Есть у города слава гордая", аўтар скончыла ў 2001 годзе. Аднак, як прызнаецца Алена Лепко, выхад кнігі стаў магчымым, толькі дзякуючы фінансавай падтрымцы Агенцтва Урада ЗША па міжнароднаму развіццю праз праграму Партнёрства Каунтэрпарт у рамках праекта "Стварэнне і дзейнасць Слонімскага клуба грамадскіх ініцыятыў".

Трэба думаць, што для краязнаўцаў, настаўнікаў, навучэнцаў і ўсіх, хто любіць гісторыю роднага краю, яго літаратуру і мастацтва, гэтая кніга станецца прыемным падарункам. І не толькі таму, што ў кнізе чытач знойдзе цікавыя матэрыялы і багатую бібліяграфію, а і ў прамым сэнсе таксама. Паколькі ўвесь тыраж — 600 паасобнікаў — будзе распаўсюджвацца бясплатна.

Мяркуецца, што прэзентацыя кнігі Алены Лепко "Есть у города слава гордая" адбудзецца ў бліжэйшы час.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

ЗДАРЭННІ

## КРАДЗЁЖ НА СВЯТА

**У ноч з 1 на 2 студзеня, пакуль гаспадары святкавалі ў гасцях Новы год, да іх у кватэру, што на вуліцы Горкага, завітаў няпрошаны госць.**

Здабычай рабаўніка сталі 1 млн. 800 тысяч беларускіх рублёў і 550 даляраў ЗША.

Па факту крадзяжу міліцыя праводзіць расследаванне.

## СМЕРЦЬ НА НОВЫ ГОД

**2 студзеня ў вёсцы Шундры быў выяўлены труп 92-гадовай мясцовай жыхаркі. Бабулю знайшлі мёртвай у яе хаце суседзі.**

Апошні раз вяскоўцы бачылі жанчыну жывой 30 снежня ў краме, калі тая купляла хлеб. А потым суседзяў насцярожыла, што адзінокая бабуля нічым не выдае сваё знаходжанне дома. Калі вяскоўцы 2 студзеня ўвайшлі да яе ў хату, то знайшлі гаспадыню мёртвай. Людзей вельмі ўразіла тая акалічнасць, што твар бабулі быў аб'едзены хатняй жывёлай.

Як паказала медэкспертыза, бабуля памерла сваёй смерцю.

## ПАДАЗРАЮЦЦА Ў КРАДЗЯЖАХ

**У ноч з 2 на 3 студзеня работнікі міліцыі затрымалі двух маладых людзей, якія падазраюцца ў крадзяжах рэчаў з аўтамабіляў слонімцаў.**

Мінулы год быў вельмі багаты на падобныя злачынствы. Таму ў гэтым накірунку работнікі крымінальнага вышуку праводзяць маштабную пошукавую працу.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

## ОСТАЛИСЬ БЕЗ КРЫШИ

**3 января, в пятницу, в деревне Шиловичи Слонимского района поздно ночью загорелся жилой дом.**

Огнем уничтожена крыша и перекрытия постройки. Человеческих жертв нет.

Причина пожара и причиненный ущерб устанавливаются.

**Ольга ШИНКЕВИЧ**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# КАНЦЭРТ СПАДАБАЎСЯ І ДЗЕЦЯМ, І ДАРОСЛЫМ



*Трэба ўжо развітацца. Да новай сустрэчы...*

**На праваслаўныя Каляды музыканты ваенна-гістарычнага клуба "Ліра" далі дабрачынны канцэрт для выхаванцаў Слонімскага дзіцячага дома. Ініцыятыва правядзення гэтай акцыі належала камандзіру 11 механізаванай брыгады палкоўніку Мікалаю Скобелеву.**

А незвычайнасць канцэрта была ў тым, што ўсе музыканты былі апрануты ў ваенную форму ўзору 1812 года. Прыгожыя мундзіры, высокія ківеры (галаўныя ўборы), бляск духавых інструментаў выклікалі сапраўднае захапленне ў дзяцей.

Пад густ абмундзіраванню была падабрана і музыка — ваенныя маршы, музыка з вядомых кінафільмаў, апрацаваныя эстрадныя мелодыі. Ледзь не да слёз прабіралі гукі духавога аркестра дарослых, выхавацеляў дзіцячага дома. А вось самім дзеткам больш спадабаліся песенькі "Я играю на гармошке" і "Голубой вагон" з мультфільма "Крокодил Гена и его друзья".



*Падзьмуць у трубу нават чарга сабралася*

Апладысменты суправаджалі выкананне кожнай мелодыі. А пасля заканчэння канцэрта ўжо ўдзячныя музыканты не абышлі сваёй увагай маленькіх слухачоў: і паразмаўлялі з імі, і далі памераць свае ківеры, і, нават, паспрабавалі правесці імправізаваны ўрок ігры на трубе.

Першая сустрэча дзяцей з музыкамі спадабалася ўсім. Жывая музыка не пакінула абыякавымі нікога.

**Валерый КАВАЛЕНКА, фота Віталя ГІЛЯ**



*"Эх, на жаль, пакуль мундзір завялікі..."*

ИНТЕРВЬЮ

# Анатолий ТЕРЕНИН: "БЕЗ ЖЕНЩИН НЕ СТОИТ ЖИТЬ..."



*Анатолий Теренин*

**Сегодня «ГС» продолжает публиковать серию интервью с самыми интересными мужчинами Слонима. Наш собеседник – заместитель председателя Слонимского райисполкома Анатолий Теренин.**

**— Анатолий Николаевич, в ваше кресло стремились и стремятся попасть очень многие. Что оно для вас: трон, доходное место, раскаленная сковородка?**

— Я думаю, что в это кресло стремятся попасть если не многие, то те некоторые люди, которые хорошо не знают об этой работе. Возможно, они думают, что должность заместителя председателя – это что-то особенное. Однако, я так не считаю. Для меня мое кресло – это и не трон, и не доходное место, и не раскаленная сковородка. Свою работу я могу сравнить с работой учителя в школе. Учитель несет ответственность за себя, как за профессионала и за учеников. И результат его труда будет виден не сегодня и не завтра, а через несколько лет. Так и у нас. Должность заместителя председателя райисполкома предполагает постоянную работу с людьми, так как я несу ответственность за социальную сферу района.

**— А что вы считаете главным в своей работе?**

— Умение брать на себя ответственность, решать, или пытаться решать многие вопросы. О качестве работы судят по конкретному результату. Ведь не секрет, когда что-то сделано хорошо, то говорят: это – мы сделали. А что плохо – не мы, и отвечает по полной программе конкретный человек. Для меня каждый прожитый день в этой должности, как экзамен, который нужно сдать на "отлично". Ведь что ни день, то встреча с новыми людьми. Это проблемы, а они все те же, они не меняются.

**— Помните ли вы свой первый рабочий день?**

— Конечно же, помню. Меня очень хорошо здесь встретили. И в свой первый рабочий день мне пришлось решить один неприятный вопрос, связанный с увольнением. Вот так сразу: вышел на работу – и пришлось уволить человека.

**— Какой самый ценный совет вы получили в своей жизни?**

— "Прежде чем научиться командовать, научись подчиняться". Без этого невозможно научиться хорошо работать. Зная, как ты это делал, можно уже и других чему-то учить.

**— Самое неприятное решение, которое приходилось принимать в работе или в жизни?**

— За мою жизнь, конечно, было принято много решений, которые, считаю, являются из числа неприятных. Вот, например, 15 лет назад я и мои коллеги были вынуждены признать нашего сотрудника профессионально непригодным. Казалось бы, и диплом о высшем образовании есть, а вот к практической работе он оказался неспособен. Пришлось уволить. До сих пор помню об этом.

**— Какую цель вы ставите перед собой в своем нынешнем положении?**

— Чтобы в моей работе была стабильность. Намеченные планы стараюсь реализовывать, решения – выполнять. Вот это и есть стабильность.

**— Ваше отношение к религии?**

— Сдержанное. Сам я крещеный, однако, как говорится, воспитан в духе воинствующего атеизма. Я в церковь не хожу, но с пониманием отношусь к верующим людям. Как мне кажется, к Богу обращаются те, кому плохо. Когда людям хорошо, они как-то забывают о Боге. Мне кажется, вера помогает, сдерживает некоторые поступки человека, призывает к пониманию, терпимости.

**— А есть такая работа, о которой мечтаете?**

— Мне сложно об этом говорить. Если бы мне сейчас было 20-30 лет, я бы мог еще порассуждать. А так... На данный момент меня устраивает моя работа.

**— Собственником чего являетесь?**

— У меня 2-комнатная квартира, в которой я живу. Нет ни машины, ни дачи...

**— Ощущение, которое хотелось бы испытать?**

— Вот очень хотелось бы прыгнуть с парашютом. Всю жизнь об этом мечтаю. Я представляю, как это страшно, но тем не менее...

**— Ощущение, которого хотелось бы избежать?**

— Потерю близких людей. У меня умер самый любимый человек – это моя мама. Человек большой и сложной судьбы. Когда ей было 12 лет, в 1942 году в деревне Окуниново фашисты расстреляли 299 человек. Там погибли ее родители, братья, сестры, близкие и родные. Мама выползла из-под мертвых с двумя пулями в грудь, тремя – в руку, двумя – в ногу. У нее не было никого и ничего. И по жизни она тащила меня и брата практически одна. Мама очень хотела, чтобы мы получили образование, чего-то достигли в жизни. Более дорогого человека у меня в жизни не было. Хотя у меня есть семья: жена, дети. Но это, может быть, другой порядок ценностей. Я очень сильно люблю свою семью. Так вот, ощущение, которого хотелось бы избежать, это — потеря близких.

**— Ваше любимое время года?**

— Весна, май месяц. А зиму не люблю, может быть, это уже с возрастом так стало. Хотя в детстве не одну пару лыж сломал. Но я очень люблю май, когда свежая зелень, когда ощущения сравнимые с катанием на качелях, когда летишь вниз и дух захватывает.

**— Любимый спиртной напиток?**

— Наверное, водка. И еще, если исключить водку, то я люблю белое сухое вино, только не красное. Пиво не люблю. Я не нахожу в нем какого-то особенного вкуса.

**— Ваш любимый праздник?**

— Конечно, Новый год. А еще люблю свой день рождения. Часто встречаешь людей, которые не любят свой день рождения, потому что прибавляется еще один год жизни. А по-моему, радоваться надо, что природа дала тебе жизнь. А еще у меня день рождения такой, который просто нельзя не любить. Я родился в день святого Валентина, 14 февраля.

**— Любимое место отдыха?**

— То, где не побывал. В свое время очень мечтал посетить озеро Байкал. Кажется, все на Канары рвутся, а мы еще здесь многого не видели. Мое любимое место отдыха – лес. Люблю просто в лесу побыть один. Мне в тягость ходить в лес большими компаниями.

**— Любимый вид спорта?**

— Сложно сказать. Раньше занимался игровыми видами спорта: футбол, волейбол, баскетбол. А сейчас предпочитаю заниматься с 9-летней внучкой Дашей.

**— У вас, наверное, вредных привычек нет?**

— Есть. Я курю и курю много. Бросить нетрудно. Я несколько раз это уже делал. Самый большой перерыв был 1 год. Отказаться от вредной привычки зависит от человека. Но сейчас я не вижу для себя причины, чтобы я бросил курить. Когда я захочу бросить, я брошу. А так мне курение доставляет удовольствие.

**— Много ли времени уделяете своей семье?**

— Меньше, чем хотелось бы. У меня двое сыновей. Один, буквально к Новому году, вернулся домой после службы в армии. Конечно, хотелось бы больше времени проводить с семьей, потому что только дома отходишь от проблем, от забот. Семья – это святое. На Новый год мы с женой праздновали 34-летие совместной жизни. Я женился очень рано. С девочкой дружил с 9 класса. Когда мы поженились, у нас ничего не было: ни профессии, ни работы, ни жилья. Всю жизнь сами всего добивались.

**— Что, по-вашему, главное в женщине?**

— В женщине все главное, потому она и женщина. Я страшно не люблю, когда о женщине говорят: заслуженная работница. Не может быть женщина – работница. Она, прежде всего, женщина. Ценность женщины – это доброта и верность, мужчины – сила и ум. Вот когда они собираются вместе, тогда и получается хорошая семья. Женщина – это все для мужчины, – вдохновение, любовь, радость. Если бы не было женщин, не стоило бы и нам, мужчинам, жить.

**Ольга ШИНКЕВИЧ**

ВОЛКОВЫСК

## ГОРОД ВОЛКОВЫСК – НА ВТОРОМ МЕСТЕ

**Подведены итоги областного конкурса по благоустройству населенных пунктов в 2002 году.**

Во второй группе с населением в 201— 500 человек первое место присуждено деревне Лозы Волковысского района с вручением диплома первой степени и денежной премии.

Среди городов областного значения Волковыск занял второе место.

## РАКУШКАМ — 150 МИЛЛИОНОВ ЛЕТ

**Новая выставка под названием «Кораллы и раковины» открылась в Волковыском городском музее.**

Здесь представлены 900 экспонатов из частной коллекции Жителя Витебска Рамазана Махмудова. На её создание у него ушло более шести лет. Дата происхождения некоторых экспонатов составляет более 150 миллионов лет.

## ОТ ПОГОНИ НЕ УШЕЛ

**Во время рейда наряд дорожно-патрульной службы ГАИ обратил внимание на автомобиль «Фольксваген-Пассат».**

Водитель иномарки сигнал милиции остановиться проигнорировал и скрылся от сотрудников.

Сотрудники ГАИ, просмотрев свою базу данных, определили, что под данным номером был зарегистрирован совсем другой автомобиль, а накануне похожая машина была угнана в Гродно. Спустя некоторое время работники ГАИ вновь обнаружили ту же машину, которая повторно не остановилась на требования инспектора. Было принято решение начать преследование. Вскоре автомобиль «Фольксваген-Пассат» был настигнут на улице Боричевского. Водитель и пассажир попытались бежать, но были задержаны милиционерами. Впоследствии было выяснено, что они и угнали этот автомобиль.

Ведется расследование.

## НЕ ЗАМЕТИЛ ТЯГАЧ

**Житель города Минска, управляя автомобилем «Сааб», на автодороге Гродно — Барановичи, в 5 км от Волковыска столкнулся с двигавшимся в попутном направлении автотягачом ГАЗ-601.**

В результате удара машину выбросило на полосу встречного движения, где она столкнулась с автомобилем «Москвич». Водитель «Сааб» и пассажирка «Москвича» с травмами различной тяжести доставлены в больницу.

**Александр ДАНИЛИН**

МАСТЫ

## ПАЦЯРПЕЎ АД ПЕТАРДЫ

**У мастоўскую бальніцу быў дастаўлены мясцовы юнак з апёкамі другой ступені.**

Прычынаю траўмаў стаў выбух няякаснай петарды.

**Антон МАКЕЙ**

ФОТАФАКТ



Фота Віталя ГІЛЯ

*На такіх санках многа не прывязеш*

ВОЛКОВЫСК

## ПОЧЕТНЫЙ ЖИТЕЛЬ ГОДА

**Почетный титул «Волковычанином года» среди предпринимателей города стал Александр Кузменков, директор Волковыского бизнес-центра.**

Главным критерием для завоевания звания являлся наибольший взнос на благотворительные нужды района.

Среди организаций победителем стало предприятие «Красносельскстройматериалы».

## ПОДАРОК К РОЖДЕСТВУ

**Волковысское предприятие «Беллакт» сделало для своих покупателей рождественский подарок.**

С 28 декабря по 8 января нового года отпускные цены на молочную продукцию были снижены на 2%, в том числе на молоко, кефир, сметану, творог, сыры и сырки.

## ТЕЛЕВИЗОР МОГ ИСПОРТИТЬ ЗАСТОЛЬЕ

**31 декабря во время празднования встречи Нового года в одной из квартир многоэтажного дома по улице Первомайской неожиданно загорелся телевизор.**

Благодаря быстрым и умелым действиям пожарных, ни квартира, ни хозяева и их гости не пострадали.

## ДУМАЛ ПРОСКОЧИТ

**Водитель Волковыского предприятия электрических сетей во время движения не обратил внимания на запрещающий сигнал семафора и попытался проскочить через железнодорожный переезд возле деревни Мочулино.**

Однако он не рассчитал расстояние и в результате столкнулся с мотовозом, который принадлежит Волковыской дистанции пути. Водитель и пассажир с телесными травмами доставлены в больницу.

**Александр ДАНИЛИН**

ПИНСК

## ПОКУСАЛА НАЛОГОВОГО ИНСПЕКТОРА

**Жительница Пинска приговорена местным судом к одному году исправительных работ за нанесение легких телесных повреждений налоговому инспектору.**

Именно так суд квалифицировал действия женщины, которая буквально покусала инспектора (ответственность за укусы человеком в Уголовном кодексе не предусмотрена).

В районе Центрального рынка города налоговые инспекторы совместно с работниками милиции проводили мероприятия по пресечению торговли в неустановленных местах.

В результате они задержали женщину с двумя банками подсолнечного масла. Она и прежде нелегально торговала продуктами из Польши. При составлении административного протокола за незаконную торговлю женщина вела себя спокойно. Когда же попытались изъять масло, она вцепилась зубами в пальцы налогового инспектора, державшего банки.

Потерпевший снял побои в судмедэкспертизе (следы зубов были заметны еще спустя неделю после инцидента), а в отношении его обидчицы возбудили дело. Накануне новогодних праздников суд вынес решение о привлечении женщины к ответственности в виде исправительных работ сроком на один год.

**Павел КУНИЦКИЙ**

БАРАНОВИЧИ

## БЫВШЕМУ ДИРЕКТОРУ ТИПОГРАФИИ БУДЕТ ПРЕДЪЯВЛЕНО ОБВИНЕНИЕ

**Управлением Следственного комитета МВД Беларуси по расследованию преступлений в сфере экономики возбуждено еще три уголовных дела в отношении бывшего директора Барановичской укрупненной типографии Евгения Ломоносова.**

Они объединены в одно производство с делом, возбужденным ранее. Как стало известно БелаПАН, в январе Е.Ломоносову планируется предъявить окончательное обвинение.

Расследование по фактам хищений имущества и денежных средств Барановичской типографии в крупных и особо крупных размерах, а также злоупотребления служебным положением, в чем подозревается Е.Ломоносов, началось в марте 2002 года. Причиной послужили материалы проверки отдела по борьбе с экономической преступностью Барановичского РОВД совместно с Комитетом государственного контроля по городу Барановичи. В мае, по решению республиканской прокуратуры, в отношении Ломоносова была избрана мера пресечения в виде содержания под стражей.

По информации сотрудников Следственного комитета МВД, общий ущерб, причиненный типографии, составляет более 4 тысяч базовых величин (на сегодняшний день размер базовой величины составляет 12 тысяч рублей). Например, в одном из дел рассматривается факт хищения денежных средств из кассы типографии на сумму более 3,8 тысяч базовых величин. В другом случае, который рассматривается как злоупотребление служебным положением, была занижена стоимость издания книги, соавтором которой являлся директор типографии. В данном случае, по подсчетам специалистов, ущерб превысил 500 базовых величин.

Как сообщил следователь управления Следственного комитета МВД по расследованию преступлений в сфере экономики Виктор Артемьев, Барановичская укрупненная типография является юридическим лицом государственной формы собственности, учредителем которой выступило Министерство информации Беларуси. "Это значит, что ущерб в особо крупных размерах причинен государству, — сказал он. — Однако до сих пор ни со стороны Министерства информации, ни со стороны нынешнего руководства типографии никакого иска в отношении Ломоносова не поступило".

**Антон НИКИТИН**

НОВОГРУДОК

## 21-ЛЕТНИЙ МУЖЧИНА ИЗНАСИЛОВАЛ 6-ЛЕТНЮЮ ДЕВОЧКУ

**Как сообщили БелаПАН в управлении информации и общественных связей МВД Беларуси, в Новогрудке (Гродненская область) вечером 1 января с обморожением рук, ног и признаками изнасилования в больницу была доставлена 6-летняя девочка.**

Следственно-оперативной группой РОВД предварительно установлено, что преступление совершил неработающий местный житель, 1981 года рождения. Преступник задержан.

**Вячеслав БУДКЕВИЧ**

ЗЭЛЬВА

## ПАЖАР У НАВАГОДНЮЮ НОЧ

**У навагоднюю ноч у вёсцы Князева Зэльвенскага раёна адбыўся пажар.**

У выніку ўзгарання пашкоджаны хлеў, у якім знаходзілася хатняя жывёла. Акрамя жывёлы, ніхто не пацярпеў. Спецыялісты вызначаюць прычыну пажару.

## АГОНЬ П'ЯНЫМ НЕ ДАРУЕ

**За 2002 год па Зэльве і раёне зарэгістравана 47 пажараў. Агонь забраў жыццё 4 чалавек.**

Для параўнання, у 2001 годзе здарылася 42 выпадкі ўзгарання, падчас пажараў загінула 7 чалавек. Як паведамілі карэспандэнту "ГС" у раённым аддзеле па надзвычайных сітуацыях, асноўнай прычынай, па якой у пажарах гінуць людзі, з'яўляецца неасцярожнасць падчас курэння ў стане алкагольнага ап'янення. Так, толькі за чацвёрты квартал мінулага года па гэтай прычыне загінула два чалавекі.

## УКРАЎ ТЭЛЕВІЗАР, ХАЛАДЗІЛЬНІК І ШАФУ

**Днямі міліцыя затрымала жыхара Ваўкавыскага раёна, які нядаўна абакраў хату ў вёсцы Пасуцічы, што на Зэльвеншчыне.**

Злодзей ведаў, што гаспадары хаты жывуць у Ваўкавыску. Таму без асаблівых цяжкасцяў разам з супольнікам ён вынес з хаты халадзільнік, тэлевізар і шафу. Дарэчы, аналагічны крадзёж гэты злачынца ўчыніў і ў вёсцы Пузікі Зэльвенскага раёна. Вядзецца праверка.

## РАЁН РЫХТУЕЦЦА ДА ВЫБАРАЎ

**Да 20 студзеня 2003 года ў Зэльвенскім раёне будзе праходзіць вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты раённага і сельскіх Саветаў дэпутатаў.**

У раённы Савет дэпутатаў неабходна выбраць 39 дэпутатаў, у сельскія Саветы – 114. Усяго ў раёне падчас выбараў будзе дзейнічаць 30 участкаў для галасавання.

**Наталля ГЛУШЭНЯ**

МАСТЫ

### ЗАЛЕЗ НА ДРЭВА І ЗАСНУЎ

**Праз некалькі гадзін пасля наступленне Новага года, калі мастаўчане пасля застолля па старой традыцыі пайшлі на гулянні каля галоўнай гарадской ёлкі, што размешчана ля стадыёна "Нёман", іх парадаваў васемнаццацігадовы юнак.**

Невядома з якой нагоды ён палез на навагоднюю дрэва, і чым болей упрошвалі яго прысутныя не рабіць гэта, тым вышэй чалавек узбіраўся. Падняўся амаль што да вяршыні дрэва, але спусціцца ўніз ужо не змог.

Потым хлопец на елцы заснуў, і, каб зняць яго, давялося выклікаць пажарную машыну з вышкай. У аддзеле міліцыі на аматара навагодніх прыгодаў склалі пратакол. Парушальнік, у сваю чаргу, паабяцаў, што не будзе болей піць і лазіць па дрэвах.

### ЗМЯНІЎСЯ КІРАЎНІК

**У сувязі з пенсійным узростам, адбылася змена начальніка Мастоўскага аддзялення "Белсаюздруку".**

Гэтую пасаду заняў саракавасьмігадовы Уладзімір Валчкевіч, які да гэтага часу кіраваў аўтакалонай у мясцовай аўтабазе.

Іван Худобіч, які на працягу апошніх 33-х гадоў узначальваў гэтую арганізацыю, таксама не застаўся без працы. Ён заняў пасаду сарціроўшчыка.

### НЕ ДОЎГА МУЗЫКА ІГРАЛА

**Жыхары вёскі Малькавічы Мастоўскага раёна, каб патанцаваць у Навагоднюю ноч, вымушаны былі звярнуцца да кіраўніцтва раёна, каб тое дало дазвол ім адчыніць клуб.**

Аднак дыскатэка доўжылася толькі гадзіну.

Прыбыўшы міліцэйскі нар... палічыў, што маладыя вяскоўцы зашмат "вясёлыя", і настаялі на тым, каб клуб зачынілі і ўсе разышліся па хатах.

**Антон МАКЕЙ**

ЛИДА

# РОССИЙСКИЕ АВТОБУСЫ БУДУТ СОБИРАТЬ В БЕЛАРУСИ




*Может тогда и слонимские автобусы "помолодеют"?*

**На опытном заводе "Неман" в Лиде планируют приступить к производству автобусов ЛАЗ-А 1414 совместно с российским ОАО "Автолаз" (Москва), официальным представителем Львовского автомобильного завода.**

Как сообщил БелаПАН ведущий экономист отдела маркетинга предприятия Игорь Бубен, опытный завод "Неман" и ОАО "Автолаз" подписали в октябре протокол о намерениях. По словам Игоря Бубена, потребность Беларуси в автобусах данной марки составляет 300 единиц в год. Он считает, что производственные мощности завода вполне позволяют собирать такое количество автобусов. Первое время автобусы ЛАЗ-А 1414 будут собираться только из российских комплектующих, отметил специалист.

Предполагается, что в конце января для практической реализации проекта между опытным заводом "Неман" и ОАО "Автолаз" будет подписан полноценный контракт. Стороны собираются оформить всю необходимую нормативно-техническую и конструкционную документацию для изготовления и сборки автобуса.

Напомним, что предприятие "Опытный завод Неман" специализируется на сборочном производстве техники. Основная продукция – автобусы различного назначения. На предприятии работает около 500 человек.

**Геннадий ШАРИПКИН**

ГРОДНО

## В НАСЛЕДИЕ ЮНЕСКО – АВГУСТОВСКИЙ КАНАЛ

**В Список всемирного наследия ЮНЕСКО планируется включить Августовский канал, расположенный примерно в 30 километрах от Гродно.**

Августовский канал сооружен в 1824–1839 годах для соединения реки Неман с бассейном Вислы. Он проходит по территории Беларуси и Польши и является уникальным памятником природы, истории, техники и туризма.

К настоящему времени сохранилось 9 шлюзов канала, три из которых находятся на территории Беларуси и нуждаются в реконструкции. Средства на проведение ремонтных работ, по словам В.Гилепа, планируется получить от ЮНЕСКО. Каналы, находящиеся в ведении Польши, уже приведены в порядок, сообщил он. В Список всемирного наследия ЮНЕСКО включено 690 объектов культурного и природного характера.

**БелаПАН**

МАСТЫ

### ЛЮДЗІ ШУКАЮЦЬ ШЧАСЦЯ НА ЧУЖЫНЕ

**Як палічылі жыхары сталага веку з вуліцы Першамайскай, што ў Мастах, прыкладна з 60 дамоў, што знаходзяцца там, 10 чалавек стала працуюць за мяжою. Яшчэ столькі ж зарабляюць на жыццё разавымі паездкамі ў Польшчу.**

Калі не браць да ўвагі Расію і Польшчу, то мастаўчане паступова пачалі асвойваць замежны рынак працы яшчэ дзесяць гадоў таму. Найбольш іх абаснавалася і працуе ў ваколіцах Нью-Йорка і Чыкага. Адна сям'я здабыла палітычнае прыстанішча, чатыры чакаюць рашэння суда. Акрамя ЗША мастаўчане працуюць у Канадзе, Чэхіі, Бельгіі, Германіі.

У апошні час зменшылася колькасць жадаючых паехаць збіраць апельсіны і іншую садавіну ў Грэцыю, але стала папулярнай Партугалія з яе мяккімі эміграцыйнымі законамі.

### НЕПАЎНАЛЕТНІ ЗАБОЙЦА

**16-гадовы вучань Правамастоўскай школы-інтэрната, які папярэдне два гады адбыў пакаранне ў калоніі для непаўналетніх, пасля дыскатэкі ў горадзе забіў 17-гадовага юнака, студэнта, што прыехаў да бацькоў на Навагоднія святы.**

Забойца меў з сабою нож і нанёс хлопцу удар прама ў сэрца.

### ДЗЯЎЧАТЫ ЛЮБЯЦЬ ПАШТУЧНА

**Прыкладна год назад у крамах Мастоўскага райспажыўгандлю сталі прадаваць дарагія цыгарэты паштучна.**

Як сведчаць прадаўцы крамаў, такім відам паслуг найбольш карыстаюцца дзяўчаты і маладыя жанчыны.

Яны часцей за іншых набываюць адну-дзве цыгарэты. Радзей паштучна купляюць цыгарэты юнакі і маладыя мужчыны.

**Антон МАКЕЙ**

ОСТРОВЕЦ

## ПОЛИТИК ОБВИНЯЕТ ЧИНОВНИКОВ В "ПРАВОВОМ ПРОИЗВОЛЕ"

**Председатель Островецкой районной организации Объединенной гражданской партии Иван Крук обратился в Центральную комиссию по выборам и проведению республиканских референдумов и к прокурору Островецкого района с заявлением, в котором сообщается о фактах "грубого давления" на членов его инициативной группы со стороны местных властей. Об этом БелаПАН сообщили в пресс-службе ОГП.**

В своем заявлении Иван Крук, который собирается баллотироваться в районный и областной советы, обвиняет местных чиновников в "правовом произволе" и, в частности, в нарушении избирательного законодательства и статьи 191 Уголовного кодекса (воспрепятствование осуществлению избирательных прав либо работе комиссий по выборам, референдуму или отзыву депутата).

Как сообщается в документе, 20 декабря этого года в Островецкую районную территориальную избирательную комиссию, Островецкий районный Совет депутатов и в окружную избирательную комиссию Островецкого избирательного округа № 46 по выборам в Гродненский областной Совет депутатов были поданы документы для регистрации инициативной группы по сбору подписей в поддержку кандидата Ивана Крука.

> ...чиновники из райисполкома провели "беседы" с членами инициативной группы, после которых часть членов группы отказались от дальнейшего участия в избирательной кампании.

На следующий день чиновники из райисполкома провели "беседы" с членами инициативной группы, после которых часть членов группы отказались от дальнейшего участия в избирательной кампании.

"Хочу заявить, что ни к одной больше инициативной группе такого пристального внимания со стороны должностных лиц Островецкого райисполкома и районной территориальной избирательной комиссии не было. Это говорит о том, что работникам Островецкого райисполкома и заместителю председателя районной территориальной избирательной комиссии Зимницкому В.М. никакие законы не писаны",– говорится в заявлении.

"Не сомневаюсь,– пишет И.Крук, – что местная власть будет и в последующем применять скрытые и недозволенные формы и методы, чтобы блокировать мою избирательную кампанию, что подтверждается уже на первоначальном этапе регистрации через давление на мою инициативную группу".

И.Крук просит провести срочную прокурорскую проверку законности действий должностных лиц Островецкого райисполкома в отношении принятых мер воздействия на его инициативную группу в предвыборной кампании и освободить от должности заместителя председателя Островецкой районной территориальной избирательной комиссии.

**Юрий ПОТЕМКИН**

БАРАНОВИЧИ

### В БАРАНОВИЧАХ УПРАЗДНЕН МЕДВЫТРЕЗВИТЕЛЬ

**С 1 января 2003 года, по решению Барановичского горисполкома, прекращает свое существование городской медвытрезвитель.**

Теперь горожан будут доставлять в медицинские учреждения или в дежурную часть города, либо развозить по домам – в зависимости от степени их опьянения.

Как и прежде, за эти услуги любителям выпивки придется платить. "Больше всего меня смущает тот факт, что люди в состоянии алкогольного опьянения не всегда могут внятно объяснить, где именно они живут", – отметил заместитель начальника Барановичского ГОВД подполковник милиции Александр Сакута.

**Антон НИКИТИН**

# ВІНШАВАННІ

**Коллектив «Газеты Слонімскай» поздравляет работников АСБ «Беларусбанка», а также всех работников ОАО «Белпромстройбанка» и ОАО «Белагропромбанка» с профессиональным праздником!**

*Желаем здоровья, процветания и всех благ.*

**Дорогая и любимая наша внученька Катенька СУПРУН!**
**Поздравляем тебя с днём рождения!**
*Прими наши наилучшие пожелания.*



*Тебе ещё пятнадцать,*
*Весь мир лежит у ног.*
*Ты лучшую дорогу*
*Найди средь всех дорог.*
*Уверенно и смело*
*Смотри в глаза судьбе*
*И выбирай то дело,*
*Что счастье даст тебе.*
*Друзей найди надёжных,*
*Любовь свою найди,*
*Путей не бойся сложных,*
*Всегда вперёд иди!*

**С любовью и нежностью дедушка Володя, бабушка Вера**

**Дорогие юбиляры Николай Иванович и Тамара Евгеньевна МОЛЕВЫ!**
**Поздравляю вас с 25-летием вашей свадьбы!**



*Вы счастливо преодолели дистанцию в 25 лет, достигли заветной ленточки. Все мы радуемся вашим успехам и провозглашаем: «Да здравствуют серебряные юбиляры — жених и невеста!»*

**Любящая мама**

**Дорогая, любимая, родная наша жена и мамочка Ирина Петровна ГОЛОВКО!**
**Поздравляем тебя с 50-летним юбилеем!**



*50 — это много и мало,*
*Это в жизни проложенный путь.*
*Не всегда были розы в дороге,*
*Но с неё никуда не свернуть.*
*Было трудно, но ты не сдавалась,*
*Было больно — не хныкала ты.*
*И всегда ты собой оставалась,*
*И порою сбывались мечты.*
*Быть такою тебе мы желаем*
*Много лет, много радостных дней.*
*С днём рожденья тебя поздравляем,*
*Будь здорова, душой не старей.*

**Муж, дочь и зять**

**Дорогие наши мама и папа Михаил Николаевич и Янина Константиновна БРАЙЧУКИ!**
**Поздравляем вас с юбилеем!**

*Нам не скрыть ни чувств, ни слов высоких,*
*Пусть сияют нежно, как светец,*
*Самые заветные строки —*
*Вам, родные мама и отец.*
*Всё, что пройдено и пережито,*
*Пусть зачислится, как аванс.*
*Вам же многие, многие лета*
*Пожелаем ещё не раз.*
*Эта свадьба зовётся рубиновой —*
*Мы дождаться хотим золотой!*
*Так живите, чтоб вам завидовали,*
*Чтоб всегда был уютным ваш дом!*

**Дочь Марина, сыновья Юра и Аркадий, невестки Ира и Лилия, внуки Вероника, Саша, Оля и Дашенька**

**Дорогая, милая мамочка, бабушка Вера Михайловна НОВИЦКАЯ!**
**От всего сердца поздравляем тебя с юбилеем!**



*Мамочка наша родная, любимая!*
*Бабушка славная, незаменимая!*
*С юбилеем тебя поздравляем,*
*Всяческих благ в твоей жизни желаем,*
*Чтобы ты никогда не болела,*
*Чтобы ты никогда не старела,*
*Чтобы вечно была молодой,*
*Весёлой, доброй и нежной такой!*
*Целуем мы добрые, славные руки твои.*

**С любовью дочери, зятья, внуки и правнучка**

**Дорогая наша Танечка БОЛТИК!**
**Прими наши самые сердечные поздравления и пожелания счастья, удачи и добра в день твоего 18-летия!**



*Ты прекрасна, и прекрасен мир вокруг.*
*Вечно будет небо ясным, будет друг,*
*И любовь придёт велика и нежна,*
*Жизнь твою перевернёт она до дна.*
*И счастливей всех на свете станешь ты,*
*И заветные исполнятся мечты…*
*Ничего, поверь, чудесней в жизни нет*
*Ожиданья счастья и удачи в 18 лет!*

**С любовью и нежностью твои родные**

**Дорогая Наташенька!**
**От всего сердца поздравляем тебя с днём рождения!**



*Желаем быть всегда счастливой,*
*Где счастье, там и красота.*
*А женщина с улыбкой милой*
*Прекрасней, чем сама весна.*
*Пусть будет всё: гроза, метели,*
*Пусть будут радость и покой,*
*А если будет очень трудно,*
*То знай, что мы всегда с тобой.*
*Пусть ангел жизнь твою хранит,*
*Пусть в жизни всякое бывает,*
*Пусть горе в двери не звонит,*
*А радость пусть не забывает.*

**Коллектив кафе «Жемчужина»**

**Дорогая, родная и любимая доченька, сестра, жена и внучка Светлана Николаевна КУЛЕШЕВИЧ!**
**Поздравляем тебя с 18-летием!**



*Будь весёлой, нежной, ясной,*
*Беззаботной и прекрасной,*
*Чтоб смеялась ты беспечно,*
*Чтобы длилось счастье вечно,*
*Чтобы все мечты сбывались*
*И желанья исполнялись,*
*Чтоб была ты, как весна,*
*Юной прелести полна.*

**С любовью мама, папа, брат Дмитрий, сестрёнка Наталья, муж Александр и бабушка**

**Дорогие родители Николай Иванович и Тамара Евгеньевна МОЛЕВЫ!**
**От всей души поздравляем вас с 25-летием совместной жизни!**



*Дорогие «новобрачные»!*
*Чтобы дожить до серебряной свадьбы, надо иметь золотой характер жены и железную выдержку мужа. Вы доказали, что обладаете этими замечательными качествами.*
*Несмотря на все трудности и сложности нашей непростой жизни, вы сумели сохранить свою любовь. Сегодня вы такие же любящие супруги, как и 25 лет назад. Пусть же ваша любовь, ваше терпение, взаимопонимание и впредь не изменят вам.*

*Желаем вам прекрасного здоровья, удачи и почаще радуйте друг друга, и тогда никакие жизненные невзгоды не одолеют вас!*

**Любящие вас Сергей, Ваня, Вика**

**У Слонімскім аддзеле ЗАГС зарэгістраваны дзеткі, якія нядаўна нарадзіліся:**

Міхайлава Маргарыта
Дабрыян Уладзіслаў
Болцік Даніла
Шыдэрская Дар'я
Янчук Раман
Юрчак Аляксандра
Лапко Мікіта
Шышко Настасся
Пачабыт Лізавета
Надудзік Кацярына
Пукала Данііл
Шынкарова Дзіяна
Хвясеня Марк
Кулеш Алена
Клепас Уладзіслаў
Гераська Паліна
Гераська Рэгіна



ЗВАРОТ

# НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСЬ — СВАБОДНАЕ І ЗАМОЖНАЕ ГРАМАДСТВА



Фота Віталя ГІЛЯ

**Шаноўныя суайчыннікі!**

Наш сённяшні стан не можа задаволіць нікога, хто жыве ў Беларусі. Большасць насельніцтва, чый узровень заробку забяспечвае толькі самыя элементарныя жыццёвыя патрэбы, знаходзіцца на мяжы жабрацтва. Але нават тыя нямногія, хто здолеў дасягнуць пэўнага матэрыяльнага дабрабыту, не ў стане адчуваць сябе ў бяспецы і спакойна карыстацца здабытым. Між тым Беларусь знаходзіцца ў цэнтры Еўропы – калысцы сусветнай цывілізацыі, месцы, дзе нарадзіліся і атрымалі развіццё агульнапрызнаныя ідэалы вольнага, культурнага і заможнага існавання чалавека ў грамадстве.

Спрадвечным прызваннем інтэлігенцыі было і ёсць асэнсаванне ходу падзей і вызначэнне найбольш аптымальных шляхоў развіцця чалавечай супольнасці. У краінах, дзе інтэлігенцыя мае належнае прызнанне, дзе яе ідэі і прапановы былі пачутыя, даўно дасягнуты адпаведны ўзровень жыцця, створаныя ўмовы, пры якіх кожны можа максімальна рэалізоўваць свае здольнасці і атрымліваць за працу ўзнагароду, дастатковую для таго, каб карыстацца ўсімі магчымасцямі сучаснага ўзроўню навукова-тэхнічнага развіцця. У краінах, дзе ролю інтэлігенцыі імкнуцца прынізіць да інтэлектуальнага абслугоўвання улады, пануюць усеагульная апатыя, перманентны эканамічны і духоўны крызіс і адсутнасць перспектыў для развіцця.

Але ніхто не можа адабраць у чалавека права свабодна мысліць і выказваць свае думкі, незалежна ад таго, што б яму за гэта не пагражала. Тых, хто праяўляе мужнасць і цвёрдасць у адстойванні гэтага права, у рэшце рэшт прызнаюць і народ, і ўлада. Менавіта дзякуючы сапраўдным інтэлігентам у грамадстве ўсталёўваецца парадак, які дазваляе кожнаму грамадзяніну ўдзельнічаць у вырашэнні ўсіх істотных пытанняў і справядлівым падзеле агульных каштоўнасцяў, наладжваць у сваёй краіне спакойнае і заможнае жыццё.

Трэба знайсці мужнасць і прызнаць, што сённяшняе незадавальняючае становішча нашага грамадства склалася ў пэўнай меры і таму, што мы, інтэлігенцыя, не выконваем належным чынам сваю адказную гістарычную місію. Гэтаму можна знайсці шмат тлумачэнняў, можна прывесці шэраг аб'ектыўных прычын, але ўсім нам неабходна зразумець, што ніхто не зробіць за нас справу, якую лёсам наканавана зрабіць менавіта нам.

Востра наспела неабходнасць вызначыцца па шэрагу неадкладных, жыццёва важных для Беларусі праблемаў:

- Што трэба рабіць для захавання нацыянальнай тоеснасці беларусаў і дзяржаўнага суверэнітэту нашай краіны
- Якім належыць быць дзяржаўнаму ладу Беларусі
- Якім павінна быць месца Беларусі сярод краінаў Еўропы і сусветнай супольнасці
- Як прадухіліць рэальную пагрозу эканамічнага і энэргетычнага крызісу
- Якія захады неабходна прадпрыняць дзеля ратавання нацыі ад наступстваў Чарнобыльскай катастрофы, а таксама дэмаграфічнага крызісу
- Якая роля Беларусі ў працэсах глабалізацыі
- Што трэба зрабіць, каб кансалідаваць беларускую інтэлігенцыю і надаць ёй належную ролю ў грамадстве

Мы звяртаемся да тых, хто ўсведамляе сваю прыналежнасць да Беларускай Інтэлігенцыі, хто адчувае боль і адказнасць за лёс нашай краіны і нашага народа, хто асэнсоўвае працэсы, якія адбываюцца ў Беларусі, і каму ёсць што сказаць і што прапанаваць, каб павярнуць нашую краіну на шлях станоўчага, перспектыўнага развіцця. Мы заклікаем усіх, хто працуе на ніве навукі, культуры, адукацыі, медыцыны, прадпрымальніцтва, у іншых сферах нашага жыцця: збірайцеся на сходы, каб абмеркаваць сітуацыю, якая склалася сёння ў нашай краіне, прапаноўвайце свае ідэі і вылучайце дэлегатаў на Сход беларускай інтэлігенцыі, які адбудзецца ў Мінску ў канцы студзеня 2003 года.

Неабходна, каб наш Сход адбыўся як сапраўдны форум нацыянальнай інтэлігенцыі і дапамог нам, нарэшце, адчуць нашую еднасць і салідарнасць, кансалідаваць нашыя намаганні дзеля таго, каб ясна і цвёрда выказаць нашую думку народу Беларусі, афіцыйным уладам, палітычнай апазіцыі і ўсяму свету.

Сябры Рабочай групы Аргкамітэту па скліканні Сходу беларускай інтэлігенцыі

НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСЬ – СВАБОДНАЕ І ЗАМОЖНАЕ ГРАМАДСТВА.

**Анісім Алена**
**Акаловіч Леанід**
**Вярцінскі Анатоль**
**Гутман Якаў**
**Іпатава Вольга**
**Кароль Аляксей**
**Колас Уладзімір**
**Конан Уладзімір**
**Купава Мікола**
**Мазынскі Валерый**
**Марачкін Аляксей**
**Сідаровіч Зьміцер**
**Трусаў Алег**
**Чарняўскі Міхась**

# НАШ КРАЙ ОЗЁР И ГОРОДИЩ


Фота з архіва "ГС"

*На окраине деревни Збочно*

### ЗБОЧНО

Долго добирались мы до крохотной деревеньки Збочно, лежащей далеко в стороне, сбоку от оживлённых дорог, чем очень оправдывающей своё название. В "Тлумачальным слоўніку беларускай літаратурнай мовы" (Мн., 1999) "збочыць" объясняется как "сысці або з'ехаць убок, даючы каму-небудзь дарогу, ці звярнуць у бок дарогі, мяняючы напрамак руху". По-видимому, название деревни отражало её географическое положение.

Применяя лингвистический подход, можно предположить, что в слове "збочыць" и следует искать корни, давшие основу названию деревни.

### ДРАПОВО

Сойдя на железнодорожной станции Озерница, мы бодрым шагом прошли через деревню с таким же названием и вскоре оказались в очень большом населённом пункте Драпово. Как нам кажется, название этой деревни происходит от слова "драпаць" (паспешна адступаць, хутка бегчы наўцёкі). Вероятно первые жители деревни Драпово были переселенцами из других мест и пришли сюда в поисках плодородных земель, а может, спасаясь от врагов или жестоких хозяев.

Но от всех врагов не убежишь, иногда приходится сражаться. В центре деревни Драпово сначала были похоронены 12 воинов, которые погибли в 1941 году и 11 июля 1944 года, а потом (5 мая 1993 года) в могилу было перезахоронено ещё 70 воинов. Среди них генерал-майор Александр Степанович Митрофанов — начальник артиллерии 6-го механизированного корпуса. Над могилой в 1982 году был поставлен памятник — скульптура женщины.

### ИВАНОВКА

Через четверть часа мы вышли к реке Ивановке ( в местном варианте — Оковке). Эта речка с площадью водосбора в 58 кв. км и длиной в 11 км течёт по Слонимскому и Зельвенскому районам и является правым притоком Зельвянки (бассейн Немана).

Беря своё начало около деревни Мыслово Слонимского района, Ивановка протекает через озеро Бездонное и впадает в Зельвянку в 1 км севернее деревни Кошели Зельвенского района. На протяжении 2 км (от истоков до деревни Збочно) река течёт по спрямлённому руслу.

### ГОРОДИЩЕ

На берегу Ивановки, в нескольких сотнях метров от Збочно, мы увидели огромный курган с мемориальной доской, сообщающей, что перед нами городище 11-13 веков, памятник истории и археологии, охраняемый государством. Местность эта так и называется — урочище Городище.

Размещавшаяся здесь раннефеодальная усадьба-замок возникла на том месте, где раньше находился древний языческий могильник, датируемый 11-12 веками. Средневековая усадьба была укреплена двумя валами — наружным (высотой 2м) и внутренним (2,5м).

Внутренний вал насыпан по краю круглой площадки диаметром 60м, которая возвышается над долиной реки на 15м.

Городище было открыто в 1893 году исследователем Я. М. Михайловским и неоднократно раскапывалось. В культурном слое толщиной 0,7м найдена гончарная керамика, обломки кирпича, кости животных. Археолог П. А. Раппопорт нашёл здесь печать конца 16 века.

Известно, что в 16-17 веках укреплённой Озерницей и окрестными деревнями (в том числе и Збочно) владели Копачи, Милошевичи, Боговитиновичи, Горностаи, Абрамовичи и другие представители белорусской шляхты.

### ЦЕРКОВЬ

Рассматривая площадку городища, мы обнаружили, что она сильно повреждена хозяйственными ямами. Посетовав на несознательность местных жителей, мы попрощались с древним городищем и отправились в саму деревню Збочно, чтобы осмотреть памятник народного зодчества — деревянную церковь, построенную в 19 веке. К сожалению, збоченская церковь не упоминается практически ни в одном реестре храмов в специальной литературе, поэтому сведения о ней крайне скудны. Известно лишь, что в этой церкви в 1860 году крестили будущего талантливого белорусского прозаика и драматурга Кондрата Лейку. Он учился в школе в соседней Озернице. А потом закончил Свислочскую учительскую семинарию. С Украины, где жил и работал в школе, Лейка присылал в «Нашу ніву» свои рассказы, в которых проникновенно описывал жизнь родных мест.

Отдельным изданием вышла его пьеса для кукольного театра "Снотворный мак" (Вильня, 1912), посвящённая "вясковым дзецям Слонімскага павета".

### КЛЕПАЧИ

После короткого привала мы решили идти к Бездонному озеру. Для этого нам снова пришлось вернуться в Озерницу и оттуда идти дальше на запад. После деревни Волчки, чувствуя изрядную усталость, мы были безмерно рады, когда рядом с нами остановился автомобиль пожалевшего нас местного жителя. В мгновение ока мы оказались в Клепачах.

Легче всего предположить, что название Клепачи произошло от глагола «клепать». Клепач — это тот, кто клепает, соединяет части чего-либо при помощи заклёпок. Однако, вполне возможно, что первоначально, в 15-16 веках, вместо Клепачей деревня называлась Копачами, т.е. название было патронимическим (производённым от какого-либо родового имени, в данном случае — Копачей).

Дело в том, что в это время хозяевами деревни были представители шляхетского рода Копачей. В период существования собственности на землю и угодья возникала необходимость вводить в географические названия личные имена, прозвища и фамилии людей-владельцев. Вероятно, так было и в данном случае — шляхтичи Копачи назвали принадлежавшую им деревню своим именем. Со временем, когда уже сменилось не одно поколение владельцев, о шляхтичах Копачах постепенно забыли и, возможно, жители деревни занялись новыми ремёслами (в частности, кузнечным), формант «Ко» в названии «Копачи» изменился на «Кле», и мы получили современное название деревни.

### ВОССТАНИЕ

О том, что жители Клепачей занимались кузнечным ремеслом, говорит факт наличия у них разнообразного холодного оружия, зафиксированный в документах. В 1700 году местные крестьяне отказались выполнять повинности и не допустили обмера земель, находившихся в их пользовании. Примечательно, что долгое время им удавалось стоять на своём, давая вооружённый отпор обидчикам. Только в 1703 году волнение было подавлено войсками.

### ГОДЫ ВОЙНЫ

В самые первые часы Великой Отечественной войны 6-й механизированный корпус под командованием генерал-майора М.Г.Хацкилевича в составе 10-й армии вёл на реке Нарев тяжёлые оборонительные бои с немецко-фашистскими захватчиками. 23 июня 1941 года командование Западного фронта приняло решение осуществить силами конно-механизированной группы под командованием генерал-лейтенанта И.В.Болдина контрудар на Гродно. В состав группы должны были войти 6-й и 11-й механизированные и 6-й кавалерийский корпусы, но в спешке для контрудара была использована только часть сил. 24 июня 11-й механизированный корпус атаковал противника. Развернувшаяся битва заставила фашистское командование дополнительно перекинуть под Гродно ещё два армейских корпуса и некоторую часть 3-й танковой группы. Наиболее активно действовали 6-й и 11-й механизированные корпусы и 85-я стрелковая дивизия 3-й армии, которые вечером 25 июня сражались уже на подступах к Гродно. Но значительные потери, нехватка горючего и боеприпасов заставили их отступить на рубеж реки Свислочь. 27 июня в жестоких боях у деревни Клепачи погибли 208 воинов 6-го механизированного корпуса Советской Армии и их командир — генерал-майор Михаил Георгиевич Хацкилевич. В 1965 году на братской могиле был поставлен обелиск.

Уцелевшие танкисты из-за отсутствия горючего вынуждены были взорвать часть боевых машин. Местные сторожилы утверждают, что несколько танков отступающие солдаты столкнули в Бездонное озеро.

### ХРАМ

Неподалёку от братской могилы находится церковь, памятник народного деревянного зодчества с чертами неорусского стиля, построенная в конце 19 века. Это небольшое прямоугольное в плане здание с двухъярусной колокольней и трёхгранной апсидой. Церковный двор опоясывает каменная ограда с изящными белыми воротами.

### МОГИЛЬНИК

Осмотрев церковь, мы вышли за околицу деревни и взобрались на пригорок, который был щедро усыпан самыми разнообразными камнями. Из книг мы уже знали, что это каменный могильник, датируемый концом 14 началом 17 века. Исследователи Ф.Д.Гуревич (1955) и А.В.Квятковская (1982) обнаружили здесь более 200 захоронений, в головах которых находились большие камни. Археологами была вскрыта могила, на которой лежал гранитный камень 80х40 см, в результате чего была выявлена кладка 2х1,5 м толщиной до 0,4м, с рядами камней; в насыпи найдены обломки трёх гончарных горшков с параллельными полосами; на глубине 1,1м обнаружен скелет человека, ориентированный головой на запад. В большинстве захоронений были выявлены остатки домовин. Погребальный инвентарь (височные кольца, серьги, кольца, пряжки, шпильки) встречались только в наиболее древних могилах. Под вымостками, иногда в заполнении могильных ям, найдены фрагменты необожжённой гончарной керамики 14-17 веков. Рядом с могильными ямами исследователи обнаружили остатки ритуальных кострищ. Как ни странно, до начала 16 века на наших христианских белорусских землях усопших ещё очень часто хоронили по языческому обряду.

### ЛЕГЕНДА

Согласно местной легенде, в давние времена на месте Бездонного озера была деревня. Однажды пришёл сюда Бог в обличье убогого нищего и попросил кусок хлеба. Никто из жителей не внял его мольбам, и только одна женщина дала ему каравай в дорогу. Бог решил покарать людей за жадность, а женщину предупредил, чтобы она, взяв детей и многочисленных домашних животных, шла из деревни и не оборачивалась. Но та не вытерпела, оглянулась и увидела, что за спиной раскинулось Бездонное озеро, и в тот же момент превратилась в камень. Та же участь постигла её детей и домашних животных. Местные жители, рассказывая эту историю, и сейчас показывают камень, похожий на женскую фигуру с длинной косой.

**Светлана и Игорь ПРОКОФЬЕВЫ**

ПОЛЬШЧА

# СЛОНІМЦАЎ У ПУЛТУСКУ ВІТАЎ НАПАЛЕОН


Конны эскорт Напалеона Банапарта


Праціўнікі сышліся ў штыкавую...


Напалеон прымае парад

**Пасля каталіцкіх Калядаў слонімскі ваенна-гістарычны клуб "Ліра" пад кіраўніцтвам Міхаіла Харчанкі накіраваўся ў Польшчу, у маленькі гарадок Пултуск на апошнюю ў 2002 годзе рэканструкцыю напалеонаўскіх бітваў.**

Але адразу хочу засяродзіць увагу на тым, што палякі не шкадуюць грошай на ўпрыгожванне сваіх гарадоў. І акрамя галоўных ёлак, напэўна, амаль кожны дзесяты гаспадар ставіць ёлачку на сваім падворку, упрыгожвае яе цацкамі ды гірляндамі. Здзівіла тое, што ўвечары мала каго сустрэнеш на вуліцы. Яно і зразумела, – Каляды прайшлі (гэта было 27 снежня), і чаго бадзяцца па горадзе, калі прыемней правесці вечар дома, з сям'ёю.

Затое сустрэць у Польшчы беларусаў – не праблема. Едуць нашыя людзі на Захад на заробкі, па танныя прадукты. На мытні палякі, калі даведаліся, што мы са Слоніма, нават пажартавалі з цікаўнасцю: "У вас там у Слоніме яшчэ хто-небудзь застаўся?"

Тым не менш, трэба ўжо распавесці і пра мэту візіту ў Польшчу аркестра ваенна-гістарычнага клуба "Ліра". У Пултуску рэканструкцыя падзей пачатку XIX стагоддзя праводзілася ўпершыню, але слонімскіх музыкантаў на гэтае свята запрасіць не забыліся.

Канечне, сутыкненне расійскіх і напалеонаўскіх войскаў у межах гарадской плошчы Пултуску па маштабах ніяк нельга параўнаць з бітвамі на Барадзіно ці Бярэзіне. Але ж арганізатары, захопленыя велічнымі гістарычнымі падзеямі, зрабілі сапраўднае свята для жыхароў і гасцей Пултуску.

Сотні гледачоў пабачылі відовішча сутыкнення, у якім на баку расійскіх войскаў выступалі слонімскія музыканты, апранутыя ў тагачасную форму. Некалькі разоў у чадзе і грукаце гарматных стрэлаў сыходзіліся ворагі ў "штыкавых бойках". Расіяне вымушаны былі адысці да сваёй батарэі і прыняць там апошні бой рэканструкцыі.

Кульмінацыяй гістарычнага свята стаў прыезд імператара Напалеона Банапарта, які з балкона аднаго з дамоў павітаў жыхароў Пултуску, пасля прыняў сумесны парад расіян і французаў і выехаў з Пултуску ў суправаджэнні коннага эскорту.

Упрыгожаннем свята стаў канцэрт, які далі музыканты са Слоніма для гараджан. Ваенна-гістарычным клубам "Ліра" зацікавіліся і мясцовая прэса, і польскае тэлебачанне, і нават камп'ютаршчыкі, якія пажадалі зрабіць інтэрнэт-сайт клуба. Што і не дзіўна, бо слонімцы былі адзінымі прадстаўнікамі ўніфармісцкага руху не толькі з Беларусі, але і з усёй пастсавецкай прасторы. Напомніць аб сабе ў Польшчы было зусім не лішнім, бо 2003 год па ўсёй Еўропе прызнаны годам напаміну аб напалеонаўскіх войнах. І ўжо на пачатак бягучага года клуб "Ліра" атрымаў некалькі запрашэнняў на гістарычныя святы ў Расію і Польшчу.

Вяртанне на радзіму ледзьве не азмрочылі беларускія мытнікі, якім раптам спатрэбіўся дазвол на ўвоз музычных інструментаў. Але, дзякуй Богу, усё абышлося добра, і больш прыгод на шляху ў Слонім не было.

**P.S.** За дапамогу ў арганізацыі паездкі музыканты выказваюць удзячнасць камандзіру 11 механізаванай брыгады палкоўніку Мікалаю Скобелеву і начальніку Слонімскага райаддзела ўнутраных спраў палкоўніку міліцыі Яраславу Халецкаму.

**Валерый КАВАЛЕНКА**
**(Фота аўтара)**

США

# БДИТЕЛЬНОСТЬ – ОРУЖИЕ ЕДОКА

**Доктор Хоуп Вэршоу, известный специалист в области питания, предлагает десять советов, как не повредить здоровью, питаясь в кафе или ресторане.**


Фото IREX/ProMedia

**Совет первый.**
**Есть так, как привык дома.**
Не думайте, что если вы решили поесть в ресторане, то вы автоматически приобретаете право есть столько, сколько захочется. Неумеренная и нездоровая еда наносят вашему организму колоссальный ущерб. Поэтому всегда старайтесь сохранять баланс между желанием попробовать что-то вкусненькое и особенностями своей диеты.

**Совет второй.**
**Хорошо выбирайте ресторан.**
Старайтесь есть там, где предлагают здоровую пищу. Отдавайте предпочтение овощам, фруктам и блюдам с наименьшим содержанием жира. Перед тем как садиться за столик, поинтересуйтесь содержанием меню.

**Совет третий.**
**Не будьте частью толпы.**
Традиционно американцы потребляют много мяса с высоким содержанием жиров и мало зерновых изделий, овощей и фруктов. Поэтому большинство ресторанов и кафе предлагают именно нездоровый набор блюд.

**Совет четвертый.**
**Знайте, где и когда остановиться.**
Заранее рассчитайте, какого количества еды вам должно хватить для насыщения. Не превышайте эту норму, даже если вам этого очень хочется. Если вы закусываете в своем любимом месте, постарайтесь выбирать не привычные, а наиболее здоровые блюда. Придерживайтесь золотого правила: мы едим, чтобы жить, а не живем, чтобы есть.

**Совет пятый.**
**Избегайте жира.**
Жир – страшный враг человека. Он вреден сам по себе, и он очень калориен. Понятно, что при приготовлении блюда редко удается избежать использования жира. Но не мажьте масло на хлеб, не заказывайте салаты, заправленные майонезом, сметаной, сыром. Небольшой кусок жирного мяса не очень повредит вашему здоровью. Но старайтесь, чтобы этих кусков было поменьше.

**Совет шестой.**
**Заказывайте меньше.**
Лучший способ есть меньше – меньше заказывать. Отдавайте предпочтением маленьким порциям.

**Совет седьмой.**
**Придерживайтесь семейных традиций.**
Чтобы попробовать какое-либо блюдо, совсем не обязательно его заказывать. Вы можете объединиться со своими близкими или коллегами, с которыми вместе пришли в ресторан. Сделайте разные заказы и поделитесь блюдами друг с другом.

**Совет восьмой.**
**Не стесняйтесь.**
В ресторане вы можете заказать то, что вам необходимо. Например, вы можете указать официанту, чтобы салат не поливали майонезом.

**Совет девятый.**
**Избегайте пустых тарелок.**
Мода ничего не оставлять на тарелке после еды осталась в вашем детстве. Значительно лучше, если на вашей тарелке останется несколько недоеденных кусков. Это показывает, что вы контролируете свое питание и не являетесь рабом желудка.

**Совет десятый.**
**Вы можете захватить еду с собой.**
Если порция чересчур велика, нет никакой нужды доедать ее. Попросите, чтобы вам упаковали остатки еды, и возьмите домой (в США эта услуга называется "коробочка для собачки" (doggy bag). Вы можете попросить упаковать часть вашей порции еще до того, как вы приступили к еде.

**Washington ProFile**

АПАВЯДАННЕ

■ Мікола ГРЫШАН

# РАНІЦА ДЫРЭКТАРА

Шуміць мора. Няма яму спакою, але шуміць яно заўсёды па-рознаму: то лагодна-ласкава, то бунтарна-сярдзіта. Сягоння яно пяшчотна-млявае: толькі прачынаецца.

Вунь сонца толькі што выкаціла свой вогненны шар на яго паверхню, і выглядае яно наліўным яблыкам у талерцы, якая не мае берагоў. Іскрыстыя праменьчыкі скачуць па загрыўках хваль, чуць-чуць не дасягаючы да берага, знікаюць, а хвалі нахлынаюць на пляжны пясок і таксама знікаюць, не дастаючы да пят Пятра Фёдаравіча, які ляжыць пры самай вадзе і, жмурачыся, глядзіць на агністае сонца, на мора, у якім недалёка ад берага плёскаецца, нібы лебедзь крыламі, чарнабровая Марына, буфетчыца рэстарана з Канатопа, чуць не яго зямлячка. Яна маніць рукою яго да сябе. Ён сіліцца падняцца і не можа.

І раптам...

— Му-у-у, — чуецца працяжнае.

Сонца страпянулася і знікла, а за ім знікла мора, а ў моры — Марына і пляж.

Зноў пачулася му-у-у, і жаночы голас:

— Сціхні, разраўлася тут, чалавеку з дарогі паспаць не дасі.

Голас, як адзначыў Пётр Фёдаравіч, належаў санітарцы ветучастка Галі, якую празвалі "я ж кажу" за яе прывычку ўжываць у сваёй мове гэты зварот дзе трэба і дзе не трэба. Механік Тодар Саместрэл з гэтай нагоды і куплет з вядомай песні перапрацаваў:

Па-грузінску я ж кажу,
А па-руску Галя.

І ўжо з пяць гадоў ходзіць яна без уласнага імені з мянушкай "я ж кажу".

Пётр Фёдаравіч баіцца адкрываць вочы. Яму хочацца, каб сном была не першая частка — мора, сонца і Марына, а другая — рыканне каровы, голас Галі. Ён адкрывае вочы: дамашняя абстаноўка — сцены спальні, акно, занавешанае ружовым цюлем, стол, жончын пусты ложак. Глянуў на ложак і ўспомніў, што ўчора бабка Юля, домработніца, альбо, як па-тутэйшаму з даўняга часу гаварыць, служанка, як ён толькі заявіўся дадому, распавядала, што Ганна Дзмітраўна, жонка, праз тыдзень, як ён паехаў на мора, выехала ў Баранавічы. Прыехалі на вялікай машыне два яе браты, яна сабрала ўсе свае рэчы, браты пагрузілі іх у машыну, сама абышла дом, потым зайшла ў сені, пацалавала вушак, перахрысцілася і са слязамі на вачах, сказаўшы "Бог разбярэцца", узяла за ручку Волечку і, не аглянуўшыся ні разу, рушыла да машыны.У чым разбірацца жонка даверылася Богу, Пётр Фёдаравіч ведаў: ён не лічыў сябе бацькам Волечкі, якой цяпер споўнілася тры гадочкі. На працягу гэтых трох гадоў ён даводзіў жонцы, што ад аднае злучкі не можа з'явіцца дзіця. А Волечка ўсё пабрала ад бацькі: і носік курносенькі, і бародка крыху выцягнутая, і манера хады такая. А ён: не мая дачка — і ўсё. А што яна падобная да яго, то жонка магла нагледзецца на яго — вось і ўдалася такая. Адраклася жонка ад тытула дырэктаршы і ад раскошы дзеля спакою. З сягодняшняга дня для Пятра Фёдаравіча адкрываецца новая старонка жыцця.


Фота Віталя ГІЛЯ

Праз акно заглядае ранішні прамень сонца. На вуліцы тлумна — ідуць каровы на пашу, першапачатковы этап працоўнага дня на вёсцы. Затарахцеў пускач трактара, а праз паўхвіліны пачуўся роўны гул матора. Дырэктар ведае: руплівы трактарыст камусьці падручыўся да працы акучыць бульбу. Загагаталі гусі. Гэта суседка выпусціла іх на возера, якое тут жа, цераз вуліцу. З аднаго боку вуліцы дамы аднолькавага фармату: "фінскія" дамы, абкладзеныя сілікатнай цэглай, з другога — за прысадамі таполяў — возера.

Сама вуліца носіць назву Бедная. Так у народзе называюць яе, а ў афіцыйных дакументах яна — Азёрная. І жывуць на беднай вуліцы толькі "бедныя" — усе саўгасныя спецыялісты вышэйшага звяна разам з дырэктарам. Жывуць як адна сям'я. У саўгасе адзін раз у месяц праводзяць выбракоўку свіней на ферме і адну з іх колюць, на мове справаздач азначае вымушаны забой. Мяса адпраўляецца на склад для агульнага карыстання. Не адносяцца да гэтага агулу толькі "бедныя" з Беднай вуліцы. Пакуль тая свініна дойдзе да склада, які месціцца ў будынку касцёла, закладзенага ў 1480 годзе, то ад яе застаюцца хвосцік і ножкі з капытамі: "бедныя" расхапаюць усё на ферме, дзе колюць і разбіраюць яе. А на складзе кладаўшчык атрымлівае ведамасць аб прададзенай свініне. Гэта так жывуць і пасуцца саўгасныя "бедныя", а лепей за іх жыве раённае і абласное начальства. Асабісты шафёр дырэктара ведае адрасы раённых, абласных і нават мінскіх варацілаў. Загрузяць у багажнік тушку цяляці ці парсючка, і прэ ён яе ў Гродна ці ў Мінск, а там груз на плечы — і на трэці ці пяты паверх, націснуў на кнопку званка, пачакаў, пакуль хто з'явіцца на парозе, папрасіў, каб прынялі, і на выхад.

Уставаць не хочацца. На душы сплецене супрацьлеглых пачуццяў: млявай асалоды (сон навеяў) і лёгкай незадаволенасці, у чым вінавата карова, што разбудзіла, і ўчынак жонкі (усё ж не ганарова). І першае пачуццё паволі ўступае месца другому.

Ён паклаў рукі на галаву, пацягнуўся, а пасля вяла рукою працягнуў па краю тумбачкі, абмацаў стосік газет, узяў верхнюю, ёй аказалася раёнка, разгарнуў і найперш глянуў на рубрыку "У народным кантролю", прабег вачыма для цікавасці першы абзац — і санлівасць прапала ўміг, як тое сонца над морам у сне. Аж страсянула: там паведамлялася, што дырэкцыя саўгаса аштрафавана на 25 тысяч рублёў за падзёж 15 кароў. Тлумачэння не было.

Дырэктар, як мячык, падскочыў з ложка, стаў на ногі і, не засцілаючы ложак (не было прывычкі: раней гэта быў абавязак жонкі), у трусах і майцы збегаў на двор пад умывальнік. Да водпуску кожную раніцу ён ныраў у возера, а сёння, пасля мора, возера ўпадобілася звычайнай лужыне.

Апаласнуўся халодная вадой, ад чаго аж заляскаў зубамі і па руках пайшла гусіная скура. У спешцы доўга не мог папасці правай нагой у калошу, мацюкнуўся, ад чаго палегчала на душы і надышло заспакаенне. Праз якуюсьці хвіліну яго апанавалі дрыжыкі, ужо не ад холаду, а ад нервовага ўзбуджэння. Снедання ніхто не падрыхтаваў, ды такой ранню ён ніколі не ўставаў і не снедаў. Сяк-так закінуўшы капаю ложак, Пётр Фёдаравіч рушыў у кантору, нібы там ён знойдзе супакой.

**Працяг будзе**

ПАЭЗІЯ

## Сяргей ЧЫГРЫН



### Каханы край мой

Мой край адзіны, край каханы,
Я без цябе, як студня без вады.
Наступіць час, і мы загоім раны
І больш не пусцім
чужакоў сюды.
Чужым няхай чужое застаецца,
А наша мудрасць
будзе нам свяціць.
Каханы край мой —
васількамі ў сэрцы,
І зубрам белавежскім
— у жыцці.
Адзіны мой,
спрадвечны і спакойны,
Скарыны край,
Драздовіча, Купалы...
Імперскія рэпрэсіі і войны
Квітнець табе ніколі не давалі.
Ды прыйдзе час,
за гэта я малюся,
І залунае наш крывіцкі сцяг,
І дойдзем
да сваёй мы Беларусі
Па пакручастых,
звілістых шляхах...
Мой край адзіны, край каханы,
Як сын твой,
прагну суцяшэння.
Будзь незалежным,
велічным, з'яднаным,
Дзеля наступных
нашых пакаленняў.

### Божа наш ідзе на Беларусь

*На Беларусі Бог жыве...*
*Хрыстос прызямліўся ў Гародні...*
**Уладзімір Караткевіч**

Божа наш ідзе на Беларусь,
Каб пачуць Купалу і Скарыну.
Мой народ рахманы
прыгарнуць,
Абагрэць яго, каб не загінуў.
Ён ступіў адзін на курганы,
На крутыя сцежачкі, як змейкі.
Дзе з далёкай,
мудрай даўніны,
Плачуць ў хатах
сумныя жалейкі.
Можа гэта шчэ не Беларусь,
А зусім далёкая краіна?..
Божа, дакажы, што Беларусь
Для майго народа не чужына.
Хай шчаслівым
будзе мой народ,
І не дай ты
Бацькаўшчыне згінуць.
Каб без мовы на мільёны год
Будучых нашчадкаў
не пакінуць.

### Помнік Максіму Багдановічу

Планета зор —
высокая планета,
І Млечны Шлях —
як слуцкі паясок.
Ідзем да помніка
вялікага паэта,
І з васількоў нясем яму вянок.
А ён стаіць сур'ёзны і тужлівы,
Нібы чытае першы
свой "Вянок"...
Ён вечны, бессмяротны,
як радзіма,
Як радаводны ў жыцце васілёк!

### Успамін

Мяне будзіла мама рана
Пяшчотным дотыкам рукі.
Я слухаў песні жней старанных,
Насіў, вязаў, складаў снапкі.
Ідуць гады. Старэе мама,
Насустрач сонцу плывуць
камбайны...
Гляджу фотаздымкі:
дзяўчынка-мама
Снапок ў руках трымае дбайна.

### 1252 год

Навагрудскі кліча рог,
Склікае ліцвінаў на веча.
З дружынай спяшае Міндоўг
Ў Навагрудак на сустрэчу.
Трымайся, маскаль Галіцкі,
Наш князе збірае войска...
Так нараджалася моцнае
Вялікае княства Літоўскае.

## Мікола КАНАНОВІЧ

### Снег страляе

Снег страляе
бліскаўкамі ў вочы,
Мара змарнавалася дарма.
Хто цябе, каханая, сурочыў,
Хто пусціў па свеце
без майна?!

На арэлях гушкаліся совы,
Д'ябал рагатаў у голлі дрэў.
Мы з табой на ўсё
былі гатовы,
Ды ўсяго Гасподзь не захацеў.

І як тыя выгнаныя з раю
У прыроду, у якой — зіма,
Над бяздоннай прорваю,
па краю
Мы шукалі мройны
сэнс дарма.

Ісці разам
стала вузкай сцежка.
Я цябе наперад прапусціў,
І ты знікла ў морыве
бязмежным,
І віхор твой след зацерусіў.

Чорная брутальная жанчына
Пра сіроцтва мне тваё пляла,
Снег страляў і
плакала альшына,
І мой цяжар
не здужала пятля.

**Снежань 2002г.**

## Вераніка КАЗЫРЫЦКАЯ

### Агінскаму каналу

Дакранешся знянацку ты,
дайна*,
Бы павольны вячысты канал,
На раялі ды скрыпцы
ты грай нам,
На аргане ў касцёле спявай:

"Я цябе не пабачу, радзіма,
Там дзе ліпы, каштаны, дубы,
І прыгожыя рэкі на дзіва,
І аблокаў бялюткія лбы.

Туманы дзе
вячэраюць траўкай,
Зоркі ў небе нібы шалясцяць,
Дзе сабака ці кот ноччуваўкаў,
Кажаны дзе пад вечар ляцяць.

А пад восень растане паветра,
Нібы яблык у вуснах маіх.
Граю — музыка
сцішыцца ветрам..."
І, усцішаны ёю, ён сціх...

Ці раяль мне так грае,
ці скрыпка,
І арган гэтак сумна гучыць
І вясёла — і тонкая ліпка
Ля каналу у далеч глядзіць.

***дайна (літ. Daina)** — агульная назва розных відаў літоўскіх народных песень.

**г.Крупкі**

ГЭТА ЦІКАВА

# СТАРЫЯ ГАДЗІННІКІ



*З калекцыі насценных гадзіннікаў*

**Нядаўна ў Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі адкрылася выстава старых гадзіннікаў. У яе калекцыі налічваецца каля ста пясочных, сонечных, кішэнных, наручных, насценных, дарожных і іншых гадзіннікаў. Цікава, а якія гадзіннікі сёння захоўваюцца ў музеях Слоніма і ў прыватных калекцыях нашых землякоў?**

З такім пытаннем карэспандэнт "ГС" найперш звярнуўся ў Слонімскі краязнаўчы музей імя Стабро ўскага да яго дырэктара Ірыны Шпырковай. Ірына Рыгораўна нічым асаблівым парадаваць не змагла. Яна сказала, што ў музеі цяпер захоўваецца толькі адзін каштоўны французскі гадзіннік канца XIX стагоддзя і запасная спружына да яго. Музей набыў гэты экспанат нядаўна у адной сланімчанкі.

Каля ста розных гадзіннікаў мае ў сваёй прыватнай калекцыі слонімец Міхаіл Рылко. Гэта будзільнікі, насценныя, кішэнныя і пясочныя гадзіннікі, якім ужо 50-100 гадоў. Ёсць у яго і гадзіннікі, якім больш за стагоддзе.

Добрым спецыялістам па гадзінніках лічыцца работнік Слонімскай райбытэхнікі Юрый Лапянок. Ён не толькі рамантуе старыя гадзіннікі, але і робіць да іх мастацкія корпусы.

— Я не калекцыянер, а проста аматар па рэстаўрацыі гадзіннікаў, — пачаў гутарку Юрый Уладзіміравіч. — Бывае, папросяць сябры ці знаёмыя адрэстаўрыраваць стары гадзіннік, вось я ў вольны час гэтым і займаюся. Часам трапіць у рукі стары механізм — я з яго зраблю гадзіннік з арыгінальным корпусам. Гэтаю справаю я займаюся яшчэ са школы. Скажу шчыра, мне ў Слоніме траплялі даволі каштоўныя, прыгожыя і дарагія гадзіннікі, нават залатыя і срэбныя, якія цяпер знаходзяцца ў прыватных калекцыях. З выгляду самыя прыгожыя французскія гадзіннікі, але ў іх прымітыўны бой. А ў швейцарскіх гадзінніках простыя корпусы, але шыкоўныя механізмы і вельмі прыгожы бой. Такія гадзіннікі заўсёды паказваюць дасканалы час. Дарэчы, у апошні час электронныя гадзіннікі людзям ужо надакучылі, ідзе вяртанне да механічных гадзіннікаў.




*Юрый Лапянок расказвае пра свае гадзіннікі*

Сёння шмат гадзіннікаў са слонімскіх калекцый знаходзяцца ў музеях Расіі, Польшчы, Германіі, Англіі, Ізраіля, а таксама ў прыватных еўрапейскіх калекцыях. У гады Вялікай Айчыннай вайны, як паведамляе акт аб страце каштоўнасцей ад 30 верасня 1944 года, падпісаны былымі супрацоўнікамі Слонімскага гарсавета і дырэктарам музея Язэпам Стабро ўскім, са Слонімскага музея зніклі англійскі гадзіннікавы механізм XVII ст., напольны гадзіннік XVIII ст., англійскі вялікі, круглы срэбны гадзіннік XVIII ст. у трайным срэбным куверце са срэбным ланцужком.

Нядаўна жыхар Слоніма Сулейман Байрашэўскі расказваў пра былога слонімца Станіслава Рыбінскага, які жыве ў Англіі. Спадар Рыбінскі ўсё жыццё калекцыянірue гадзіннікі. У яго калекцыі ёсць два гадзіннікі, якіх у свеце больш не існуе.

Добра было б, каб наш зямляк прывёз у родны яму горад сваю калекцыю і зрабіў выставу гадзіннікаў — слонімцам было б на што паглядзець.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

ФЕЛЬЕТОН

# ХАДЗІ, БАБА, У ПОРТКАХ!

На лес ускаціўся гарачы блін сонца, а над хаткай Бабы Ягі яшчэ не шарэў дымок. Свавольніца-Вавёрка, скачучы з сасны на сасну, сарвала шышку і шпурнула проста ў комін. У той жа момант дзверы зарыпелі і на парозе з'явілася гаспадыня.

— Кыш, нягодніца! Твая шышка ўпала мне проста ў гаршчок і сапсавала ўчарашні булён, бо я вельмі не люблю паху хвойнай смалы.

— А не трэба так доўга спаць. Лес ужо даўно прачнуўся, гамоніць і спявае на ўсе лады, а ты дрыхнеш, — папракнула Вавёрка.

— Каб ты ўсё жыццё так дрыхнула, рыжая, як я сёння. За ноч нават і вокам не звяла: думкі круціліся ў галаве, нібы жорны на старым млыне.

— І што ж у цябе за думкі такія? Нябось маракуеш, як людзям новую прыкрасць зрабіць.

— І не блізка! Думкі мае на гэты раз светлыя і чыстыя, як сённяшняя раніца. Змей Гарыныч запрасіў мяне на юбілей: неўзабаве споўніцца трыста гадоў яго сярэдняй галаве — самай разумнай і прыгожай. Дык я аб уборах мару, каб хараша выглядаць на банкеце, бо там будзе Кашчэй Бессмяротны, на якога я ўжо даўно вока паклала. Гэта сукенка, што на мне, амаль што новая: усяго дваццаць гадоў як нашу, не скідаючы. Але ж я хачу харашэйшую...

— Ну, то купі матэрыі ды пашый.

— Дык я ж над фасонам цэлую ноч і думала: ці то з разрэзам да паясніцы, ці то клёшную зрабіць. І дэкальтэ толькі ззаду ці спераду таксама. Як ты думаеш, Вавёрка?

— А што мне думаць? У мяне футрачка ніколі не зношваецца, заўсёды як новенькае. Хоць на банкет у ім ідзі, хоць да Зайца на спатканне. А ўвогуле, чаго табе надта перажываць? Злятаеш на ступе ў Вялікія Забэцькі, купіш тканіны ў мясцовым універмагу, а потым пяройдзеш на другі бок вуліцы ў дом быту, там мадэльеры і фасон падабраць дапамогуць, і пашыюць такую сукенку, што твой Кашчэй Бессмяротны дуба ўрэжа ад кахання.




Паляцела Баба Яга ў Вялікія Забэцькі. Прыпаркавала ступу на стаянцы каля кніжнага магазіна і накіравалася ва ўнівермаг. Купіла тканіны акурат па густу: сама шэрая, а па ёй чорныя разводы, нібы ў сажу вымазаная. Усміхаючыся ад задавальнення на ўвесь зуб, яна акуратненька па пераходу перамахнула вуліцу. Ветліва павіталася з міліцыянерам, што стаяў непадалёку і сачыў за парадкам. Яшчэ падумала: можна было б і не вітацца, бо ёй на ступу правы не патрэбны, і прычапіцца міліцыянер не мае за што, але няхай будзе як найлепей.

Трымаючы пад пахай матэрыю, паднялася на прыступкі. Зайшла ў фае. Злева нейкі магазін убачыла, справа праз адчыненыя дзверы вянкі ды карзінкі, якія на магілы ставяць.

— Бесталковая Вавёрка не туды мяне накіравала, — прашаптала сама сабе. — Знарок, напэўна, у пахавальную кантору параіла зайсці. Маўляў, не на банкет табе, Баба Яга, трэба збірацца, а на той свет.

Ажно бачыць, тут яшчэ ёсць лесвіца. Па ёй ідзе нейкая маладзіца.

— Дзе ж тут атэлье, дзіцятка? — лагодненька пытае Яга. — Сукенку хачу пашыць.

— А гэта, мабыць, на другім паверсе. Караскайцеся ўверх.

Ускарабкалася. Бачыць, за невялікім бар'ерчыкам сядзіць прыгожая кабета.

— Добрай раніцы! — прамовіла Баба Яга. — Дзе б гэта мне сукенку пашыць? — і дастае з-пад пахі матэрыю. — Казалі, што тут можна.

— Мы сукенак не шыем, але пачакайце, зараз паклічу закройшчыцу.

— Не шыем сукенак, — пацвердзіла і закройшчыца. — Некалі, правільна, было такое. І сукенкі шылі, і ўсё іншае. Нават у дзве змены працаваў цэх. Людзей у нас было мноства, і ўсім хапала работы. А цяпер, лічы, усе паразбягаліся, бо плоцццццць мала. Засумавала бедная Яга так, што ні ў казцы казаць, ні пяром апісаць.

— І што, зусім нічога не шыеце? — з кволай надзеяй на лепшае спытала яна.

— Чаму ж, шыем. Напрыклад, спадніцы, порткі. Калі ў каго што доўгае — адрэжам, калі кароткае — дачапім. А сукенак не шыем. Няма каму. Усе швачкі, што спецыялізаваліся на іх, паразбягаліся хто куды.

— Дык што ж мне рабіць, кабеткі? На юбілей хацела пайсці да паважанай асобы, сум лясны развеяць, а сукенкі прыгожай няма...

— Злятайце на ступе ў Мінск ці ў Гродна. Вам жа гэта проста.

— Ага, проста. Ступа можа разваліцца, калі ў такую далечыню перціся. Яна ж у мяне ўжо і так старая, дзесяць разоў у рамонце была.

— А давайце мы вам пашыем порткі і халат! Гэта мы ўмеем, — нечакана прапанавала адна з кабет. — Будзеце самай моднай, бо ў портках і ў халаце на банкет яшчэ ніхто не хадзіў.

— Вы што, зусім з глузду з'ехалі?! — абурылася заказчыца. — Дзе гэта хто бачыў, каб Баба Яга хадзіла ў портках? Ды такога ні ў адной казцы не сустрэнеш.

Прыляцела бедная Яга ў лес, села на парозе хаткі на курыных ножках і, падпёршы кулаком бараду, ледзь не плача.

— Ну што, заказала сукенку? — убачыўшы яе, зашчабятала Вавёрка.

— Не заказала. Не шыюць у Вялікіх Забэцькіх сукенак. Горад называецца. Уяўляеш, прапанавалі пашыць порткі.

— Ну, і хадзі, баба, у портках! Падумаеш, бяда вялікая. Кашчэй Бессмяротны яшчэ больш высахне, на цябе гледзячы. Баба Яга ў портках! Адпад! — зарагатала Вавёрка і шмыгнула ў гушчар. А Баба Яга, горка ўздыхнуўшы, пасунулася ў хатку.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

